цыянальнай прыналежнасці, веравызнання, асветнага цэнзу, аселасці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць абранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

**Артыкул 136.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

**Артыкул 137.** Жанчыны карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі нароўні з мужчынамі.

**Артыкул 138.** Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай арміі, карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі нароўні з усімі грамадзянамі.

**Артыкул 139.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных аж да Вярхоўнага Совета СССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

**Артыкул 140.** Галасаванне пры выбарах дэпутатаў з'яўляецца тайным.

**Артыкул 141.** Кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі.

**Артыкул 142.** Кожны дэпутат абавязан рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі аб сваёй рабоце і аб рабоце Совета дэпутатаў працоўных і можа быць у любы час адкліканы па рашэнню большасці выбаршчыкаў ва ўстаноўленым законам парадку.

## РАЗДЗЕЛ XII

## ГЕРБ, СЦЯГ, СТАЛІЦА

**Артыкул 143.** Дзяржаўны герб Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з сярпа і молата на земным шары, паказаным у праменях сонца і абрамлёным калоссямі, з надпісам на мовах саюзных рэспублік: «Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!». На версе герба ёсць пяцікановая зорка.

**Артыкул 144.** Дзяржаўны сцяг Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з чырвонага палотнішча, з паказам на яго верхнім кутку каля дрэўка залатых сярпа і молата і над імі чырвонай пяціканцовай зоркі, абрамлёнай залатою каймой. Адносіны шырыні да даўжыні 1 : 2.

**Артыкул 145.** Сталіцаю Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца горад Масква.

## РАЗДЗЕЛ

## ПАРАДАК ЗМЕНЫ КАНСТЫТУЦЫІ

Артыкул 146. Змена Канстытуцыі СССР робіцца толькі па рашэнню Вярхоўнага Совета СССР, прынятаму большасцю не менш $2/3$ галасоў у кожнай з яго палат.

*Прэзідыум Надзвычайнага VIII З'езда Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік:*

Н. АЙТАКАЎ
І. АКУЛАЎ
А. АНДРЭЕЎ
Ю. АХУН-БАБАЕЎ
В. БЛЮХЕР
С. БУДЗЁННЫ
К. ВАРАШЫЛАЎ
Н. ЕЖОЎ
А. ЖДАНАЎ
Л. КАГАНОВІЧ
М. КАЛІНІН
А. КІСЕЛЁЎ
С. КАСІОР
М. ЛІТВІНАЎ
П. ЛЮБЧЭНКА
А. МІКАЯН
В. МОЛАТАЎ
Г. МУСАБЕКАЎ
Г. ОРДЖАНІКІДЗЕ
Г. ПЕТРОЎСКІ
П. ПОСТЫШЭЎ
А. РАХІМБАЕЎ
Я. РУДЗУТАК
І. СТАЛІН
Д. СУЛІМАЎ
Н. ХРУШЧОЎ
А. ЧАРВЯКОЎ
В. ЧУБАР
Н. ШВЕРНІК
Р. ЭЙХЕ

Масква, Крэмль.
5 снежня 1936 г.

## Канстытуцыя сацыялістычнага грамадства

Надзвычайны VIII З'езд Саветаў СССР увойдзе ў гісторыю народаў, як знамянальная дата ў барацьбе працоўных за пабудову сацыялістычнага грамадства, за пабудову комунізма.

Новая Канстытуцыя Савецкага Саюза моцна ўвайшла ў лексікон народаў пад іменем Сталінскай, бо яе тварцом з'яўляецца вялікі друг чалавецтва—мудры правадыр і настаўнік таварыш Сталін.

Яркі даклад таварыша Сталіна аб праекце новай Канстытуцыі—новы ўклад у скарбніцу марксізма-ленінізма.

> «Галоўную аснову праекта новай Канстытуцыі СССР,—сказаў таварыш Сталін,—складаюць прынцыпы сацыялізма, яго асноўныя ўстоі, ужо заваяваныя і ажыццёўленыя».

Сацыялізм—лад, у якім пануюць новыя, прынцыпова процілеглыя капіталізму, формы гаспадаркі, у якім пануе грамадская ўласнасць, у адрозненне ад папярэдніх грамадскіх фармацый, дзе пануе прыватная ўласнасць.

Дванаццаць год назад, калі была прынята першая Канстытуцыя СССР, сацыялістычныя формы гаспадаркі ў прамысловасці давалі 16,7 проц. валавой прадукцыі, у 1935 годзе—99,71 проц. У сельскай гаспадарцы сацыялістычныя формы давалі прадукцыі: 1,5 проц. у 1924 годзе і 94,2 проц. у 1935 годзе.

У рознічным тавараабароце доля сацыялістычных форм гаспадаркі раўнялася 47,3 проц. у 1924 годзе і 100 проц. у 1935 годзе.

Разам з перамогай сацыялістычных форм гаспадаркі перамагла сацыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці. Дзяржава не толькі выцесніла прыватны капітал і аднавіла сродкі вытворчасці нацыяналізаванай прамысловасці, але і значна павялічыла іх.

Пачынаючы з 1923—1924 года па 1928 год у народную гаспадарку было ўкладзена 11.966.000 рублёў, за чатыры наступныя гады—51.438.000, а на працягу 1933—1936 гадоў—69.975.000 руб. Вытворчыя фонды краіны ва ўсёй народнай гаспадарцы павялічыліся з 1925 па 1935 год амаль у два з паловай разы, у тым ліку ў прамысловасці ў пяць раз.

У сельскай гаспадарцы трактарны парк вырас з 2.600 штук у 1924 г. да 360.200 у 1936 годзе, а яго магутнасць з 25.600 вырасла да 182.200 конскіх сіл.

12 год назад наша краіна не мела ніводнага камбайна. У 1936 годзе 50.300 камбайнаў працавала на сацыялістычных палях.

Яшчэ ў 1928 годзе сахой і конным плугам узорвалася пад яравыя 99,6 проц. усёй плошчы. У 1932 годзе саха была выцеснена канчаткова. Перамог трактарны плуг на калгасным полі. У 1936 годзе трактарным плугам узарана пад яравыя 50,4 проц. плошчы.

Ручная сяўба ў 1936 годзе складала толькі 19,9 проц. усіх пасеўных работ, уборка зернавых сярпом і касой—15,6 проц., малацьба зернавых ручным спосабам—1,9 проц. Соцыялізм у вёсцы не толькі перамог капіталістычныя элементы, але і стварыў адэкватную калгаснай вытворчасці тэхніку.

Соцыялізм, такім чынам, стаў фактам. Гэта запісана ў 4 артыкуле Сталінскай Канстытуцыі:

«Эканамічную аснову СССР складаюць: соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якая ўцвердзілася ў рэзультаце ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаататацыі чалавека чалавекам».

* * *

Соцыялізм—знішчэнне класаў. Пролетарская рэволюцыя паклала пачатак гэтаму працэсу. Устанаўленне дыктатуры рабочага класа суправаджалася падрывам былой магутнасці і ўплыву багатых маёмных класаў.

Клас прамысловых капіталістаў і фінансавых вараціл—сапраўдных гаспадароў старой Расіі—вялікая Окцябрская рэволюцыя пазбавіла сродкаў вытворчасці і капіталаў. Фабрыкі, заводы, руднікі, чыгункі, буйныя магазіны, банкі—усё, на чым трымалася ўлада капіталістаў, перашло ў рукі совецкай улады, у рукі рабочага класа, у рукі працоўных мас.

Матар'яльнай асновай улады памешчыкаў над сялянамі была зямля і капіталы. Совецкая ўлада нацыяналізавала зямлю і такім чынам вырвала сялян з лап памешчыка. Нацыяналізаваўшы банкі, яна забрала ўсе ці большую частку капіталаў памешчыкаў. Клас памешчыкаў, як і клас прамысловых фінансавых капіталістаў, быў разгромлен пролетарскай рэволюцыяй. Аднак класы яшчэ не былі знішчаны.

Дробнае сялянства не толькі заставалася класам, процілеглым кулаку. Яно вяло гаспадарку на аснове сродкаў вытворчасці, што належалі яму на правах прыватнай уласнасці. У першым перыядзе нэпа, у сувязі з ажыўленнем капіталістычных элементаў і развіццём прыватнага гандлю, у дробным сялянстве былі сільны буржуазныя тэндэнцыі. Дробнасялянская гаспадарка штогадзінна, штомінутна нараджала капіталізм.

Сялянства ў той-жа час было класам працаўнікоў, што радніла яго з рабочым класам. Паміж пролетарыятам і працоўным сялянствам не было нявырашаных супярэчнасцей.

Палітыка совецкай дзяржавы ў гэты момант заключалася ў тым, каб абмежаваць і выцесніць капіталістычныя элементы, канчаткова вырваць працоўнае сялянства з-пад кулацкага ўплыву, перасіліць буржуазныя тэндэнцыі ў сялянстве і перавесці яго на соцыялістычны шлях развіцця.

Ваенны саюз рабочых і сялян на аснове нэпа перарос у гаспадарчы саюз.

Індустрыялізацыя краіны—галоўная задача, ад вырашэння якой залежыць лёс соцыялізма ў СССР. З перамогай палітыкі індустрыялі-

зацыі перамог соцыялізм. З перамогай гэтай палітыкі было вырашана карэннае пытанне кіраўніцтва рабочага класа сялянствам. Сялянства стала арганізоўвацца ў калгасы. Пераломным момантам быў 1929 год, калі сялянства ў масе сваёй стала пад чырвоны сцяг соцыялізма. Ад палітыкі абмежавання капіталістычных элементаў у сельскай гаспадарцы совецкая дзяржава перайшла да палітыкі ліквідацыі іх як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі. Гандлёвая змычка рабочых і сялян перастала быць галоўнай эканамічнай формай сувязі двух працоўных класаў грамадства. Асноўнай формай стала вытворчая змычка, гандлёвая змычка стала дапаможнай формай сувязі.

Перамога палітыкі індустрыялізацыі азначала эканамічна не толькі пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі, але і поўную пабудову эканамічнага будынку соцыялізма.

Капіталістычныя формы гаспадаркі ў прамысловасці, гандлі і ў вёсцы пашлі ка дну. Соцыялістычная вытворчасць стала адзінай формай вытворчасці ў горадзе і абсалютна пераважнаю формай вытворчасці ў вёсцы.

Клас эксплаататараў і ў горадзе і ў вёсцы знішчан. Наша грамадства—у корані соцыялістычнае. У ім няма класа эксплаататараў, у ім няма эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Рабочы клас у рэзультаце гэтай перамогі вырас з 8 да 25 мільёнаў чалавек. Трыццаць процантаў рабочых дванаццаць год назад працавала на прыватных прадпрыемствах, эксплаатавалася капіталістам і кулаком. Зараз няма рабочых, якія-б працавалі ў прыватніка. Увесь рабочы клас працуе на соцыялістычных прадпрыемствах. Больш 30 проц. рабочых—стаханаўцы.

З перамогай палітыкі індустрыялізацыі і суцэльнай калектывізацыі рабочы клас стаў адзіным класам, які кіруе сялянствам.

Змяніўся склад інтэлігенцыі. Інтэлігенцыя СССР—новая, совецкая, выхаваная народам за 19 год. Старая інтэлігенцыя ад сабатажу ў 1918—19 годзе, прашоўшы шлях супрацоўніцтва з рабочым класам у першы перыяд нэпа, стала на шлях актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Такім чынам, рабочы клас у ходзе класавай барацьбы за перамогу індустрыялізацыі краіны і калектывізацыю сялянства стаў адзіным кіраўніком нашага грамадства.

Сялянства ў масе сваёй уступіла ў калгасы. Цяпер яно вядзе сваю гаспадарку на аснове сродкаў вытворчасці грамадскіх, а не прыватных. Карэнная розніца паміж рабочымі, якія вялі сваю гаспадарку на аснове грамадскіх сродкаў вытворчасці, і сялянамі, якія вялі сваю гаспадарку на аснове прыватнаўласніцкіх сродкаў вытворчасці,—знішчана. І рабочыя і сяляне вядуць цяпер сваю гаспадарку на аснове грамадскай і соцыялістычнай уласнасці.

Саюз рабочых і сялян стаў як ніколі моцным. Рабочыя і сяляне—дружныя класы. Паміж імі не можа ўклініцца варожы клас, бо матар'яльная аснова для яго існавання знішчана.

Карэнным чынам змянілася база Саюза Совецкіх рэспублік. У адрозненне ад мінулага, гэта база стала соцыялістычнай.

Перамога соцыялізма, стварэнне соцыялістычнай базы ў нацыянальных рэспубліках, перамога соцыялістычных форм гаспадаркі прадвырашыла лёс нацыяналістычных контррэволюцыйных элементаў і тэндэнцый. Пад кіраўніцтвам партыі і на аснове дасягнутых перамог контррэволюцыйныя нацыяналістычныя элементы разгромлены. Праграмы нацыяналістычных груп і ўхілаў, якія ў аснове сваёй з'яўляліся

праграмамі адрыву саюзных рэспублік ад СССР і падпарадкавання іх бліжэйшай капіталістычнай дзяржаве,—выкрыты. Народы саюзных рэспублік пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і вялікага Сталіна, пры дапамозе Совецкага Саюза, у непрымірымай класавай барацьбе з усялякімі контррэволюцыйна-нацыяналістычнымі групамі і плыняміператварылі нацыянальныя рэспублікі і абласці ў квітнеючыя краіны вялікага Совецкага Саюза.

Наша ордэнаносная БССР з былой царскай калоніі, дзе пад падвойным гнётам—рускай і мясцовай нацыянальнай буржуазіі—панавала цемра, галеча, жабрацтва і самая цяжкая эксплаатацыя, ператворана ў адну з перадавых рэспублік Совецкага Саюза, у яго магутны фарпост на мяжы з капіталістычным Захадам.

* * *

Перамога соцыялістычных форм гаспадаркі, знішчэнне эксплаататарскіх класаў робіць наша грамадства ў корні сваім соцыялістычным. У нашым грамадстве ажыццяўляюцца ўжо ўсе асноўныя соцыялістычныя прынцыпы.

У СССР ліквідавана беспрацоўе і паўперызм вёскі. Кожны грамадзянін у СССР мае права на работу. У СССР ліквідуецца процілегласць паміж разумовай і фізічнай працай. Расце граматнасць насельніцтва. У нацыянальных рэспубліках будуецца нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу культура.

У СССР уведзена ўсеагульнае пачатковае навучанне. У 1935—1936 навучальным годзе ва ўсіх агульнаадукацыйных школах вучылася 25.600.000 чалавек, у вузах—524.800, у тэхнікумах—711.110, у рабфаках—250.800, у ніжэйшых прафесіянальных навучальных установах—259.100 чалавек. Значыць, калі лічыць толькі гэтыя навучальныя ўстановы, то і тады выходзіць, што ў СССР навучаецца кожны сёмы чалавек. Акрамя таго, у СССР ёсць гурткі тэхнічнай вучобы, палітычныя школы і т. д., якімі ахоплены дзесяткі і сотні тысяч рабочых і калгаснікаў.

У СССР кожны працоўны мае права на адпачынак з захаваннем поўнай зарплаты. У 1936 годзе дамамі адпачынку абслужана 1.381.500 і санаторыямі 313.500 рабочых.

У СССР забяспечваецца старасць. Гэта стварае ўпэўненасць у жыцці і рабоце. У 1923 годзе старыкам было выдана пенсіі 130,6 мільёна, а ў 1935 годзе—655,8 мільёна рублёў.

Гэтыя заваёвы запісаны ў Сталінскай Канстытуцыі. Права на працу, права на адпачынак, права на забяспечанне старасці, права на асвету—стала цяпер асноўным законам совецкай дзяржавы. Сталінская Канстытуцыя—Канстытуцыя шчасця, радасці і забяспечанасці чалавека. Яна дае кожнаму грамадзяніну ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Але гэтымі правамі не абмяжоўваецца права грамадзяніна ў СССР. Грамадзянам СССР забяспечваецца свабода слова, свабода друку, свабода дэманстрацый, недатыкальнасць асобы і жылля, захаванне тайны перапіскі. Усе грамадзяне СССР маюць права выбіраць і быць выбранымі ва ўсе органы совецкай улады, за выключэннем грамадзян, «страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў».

Нароўні з мужчынай усімі гэтымі правамі карыстаецца і жанчына СССР. Дзяржава забяспечыла гэта права велізарнымі сродкамі, адпу-

шчанымі на радзільныя дамы, дзіцячыя сады, яслі, пляцоўкі, на пабудову сталовых, фабрык-кухань, пральняў і т. д.

Свабоды, прадастаўленыя цяпер совецкаю дзяржавай грамадзянам, характарызуюць нашу Канстытуцыю, як самую дэмакратычную ў свеце, а гарантыя ўсіх прадастаўленых чалавеку правоў характарызуе совецкую дэмакратыю, як дэмакратыю соцыялістычную.

Совецкая дзяржава створана і развілася, як дзяржава, якая ставіць сваёй мэтай знішчыць класы і эксплаатацыю чалавека чалавекам. Каб дасягнуць гэтай мэты, дзяржава жорстка падаўляла ўсякае супраціўленне эксплаататараў, усякую праяву сабатажу. Законы дзяржавы забяспечваюць інтарэсы большасці працоўных супроць усякага, хто гэтыя інтарэсы ўшчамляе. Дзяржава, аднак, не толькі падаўляла, але і выхоўвала. Цяпер, калі эксплаататарскія класы знішчаны, гэты другі метад кіравання высоўваецца на першы план.

Наша дзяржава расла і мацнела ў барацьбе з ворагамі на радасць і шчасце ўсяго працоўнага народу. Зараз усім грамадзянам прадастаўляецца права выбараў, кожнаму грамадзяніну забяспечваецца свабода сумлення. Усім грамадзянам прадастаўлены велізарныя свабоды, аб якіх заграніцай, асабліва ў фашысцкіх краінах, людзі і марыць не могуць. Гэта аднак зусім не значыць, што меч дыктатуры рабочага класа стане больш мяккім у адносінах варожых нам сіл. Падаўляць ворага мы будзем, як і раней, жорстка. Працоўныя масы ўсямерна будуць мацаваць сваю рэволюцыйную пільнасць і, цясней згуртоўваючыся вакол комуністычнай партыі, будуць выкрываць і граміць ворага пад любою маскай.

Перамога соцыялізма ў СССР—трыумф ленінізма, трыумф сталінскага кіраўніцтва нашай краінай і канчатковае паражэнне трацкізма і правага апартунізма.

Трацкізм з першых дзён Окцябрскай рэволюцыі сеяў паніку і няўпэўненасць у радах рабочага класа. Асноўным устоем трацкізма таго перыяда была тэорыя перманентнай рэволюцыі, наскрозь апартуністычная, у аснове сваёй варожая ленінізму. Гэтай паражэнчай тэорыяй трацкісты імкнуліся парадзіць нявер'е не толькі ў рэволюцыйныя здольнасці сялянства, але і ў сілы рабочага класа. Ужо ў гэты перыяд трацкісты цягнулі партыю і краіну на шлях разрыву саюза рабочых і сялян, на шлях эканамічнага падпарадкавання нашай краіны капіталістычным краінам. Яны ставілі стаўку на захаванне безабароннасці нашай краіны.

Адстойваючы свабоду груповак унутры партыі, змагаючыся за аслабленне партыйнай дысцыпліны, супроць моцнага партыйнага апарата, над чым Ленін працаваў дзесяткі год, дэмагагічна пахлопваючы па плячы моладзь, Троцкі спрабаваў расхістаць самае каштоўнае ў рабочага класа—партыю большэвікоў.

У працэсе барацьбы супроць ленінізма трацкісты ўсё далей адыходзілі ў лагер адкрытай контррэволюцыі.

Сфармуляваўшы і адстойваючы тэорыю немагчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне, трацкісты, у тым ліку група Зіноўева і Каменева, далі буржуазіі вострую зброю для барацьбы супроць дыктатуры пролетарыята. Выступаючы 7-га лістапада 1927 года на дэманстрацыі з лозунгамі супроць совецкай улады, арганізуючы падпольныя друкарні і сходы, трацкісты і зіноўеўцы ўказвалі буржуазіі тактыку барацьбы з совецкай уладай. Тым самым трацкізм не толькі канчаткова перайшоў у лагер контррэволюцыі, але і стаў на чале яго. Трацкізм стаў перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі.

На працягу ўсяго часу трацкісты не пакідалі сваіх замыслаў і подлай падрыўной работы.

Не маючы ніякай базы ў масах, у бяссільнай злосці супроць совецкай улады, супроць соцыялізма, трацкісты арганізуюць тэрарыстычныя групы для барацьбы з кіраўнікамі партыі і ўрада, з паасобнымі перадавымі рабочымі. Усё гэта рабілі яны ў цесным саюзе з фашысцкім Гестапо, у цесным саюзе з фашысцкай Трэцяй імперыяй з мэтай рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

Правы апартунізм узнік, як ухіл у партыі. Правыя ўхілісты змагаліся супроць лініі партыі на індустрыялізацыю краіны і суцэльную калектывізацыю вёскі. Яны стаялі за захаванне адносін, якія ўстанавіліся паміж прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, паміж кулацкай і соцыялістычнай вытворчасцю ў сельскай гаспадарцы, паміж СССР і капіталістычным светам. Гэта была лінія кулака і яго агентуры ўнутры партыі, лінія на паражэнне нашай рэволюцыі, лінія адмаўлення магчымасці перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Як і трацкісты, правыя прапаведвалі падпарадкаванне СССР капіталістычнаму свету, ігнаравалі задачы абароны, вялі лінію на разрыў саюза рабочых і сялян, на падначаленне працоўных сялян кулаку. Як і трацкісты, правыя не верылі ў сілы рабочага класа, у яго здольнасць пабудаваць цяжкую індустрыю ўласнымі сіламі. Як і трацкістам, правым былі цесны рамкі партыі. Яны ўзнялі выпаўшы з рук трацкістаў сцяг барацьбы супроць партыі, адстойваючы свабоду груповак, змагаючыся супроць партыйнай дысцыпліны.

Кіраўнікі правых—Бухарын, Рыкаў і Томскі—ішлі на змову з трацкістамі ўжо пасля таго, як стала ясна, што трацкізм—перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Угланаў, Котаў, Сляпкоў, Айхенвальд, Руцін і іншыя правыя апазіцыянеры перанялі ў трацкістаў метады барацьбы супроць партыі. Яны змагаліся з партыяй трацкісцкаю зброяй. Не гледзячы на гэта, кіраўнікі правай апазіцыі падтрымлівалі сувязь з гэтай групай.

На аванпосты барацьбы з дыктатурай рабочага класа буржуазія выстаўляе то адну, то другую групу ворагаў соцыялізма. Таму да гэтых груп не можа быць іншых адносін, акрамя тых, якія заслужылі для сябе ворагі соцыялізма.

Сцяг барацьбы за соцыялізм узняў ленінскі Цэнтральны Камітэт партыі на чале з вялікім Сталіным.

Пад яго кіраўніцтвам партыя адстаяла ленінскую тэорыю перамогі соцыялізма ў СССР і практычна ажыццявіла яе, праводзячы палітыку соцыялістычнай індустрыялізацыі і суцэльнай калектывізацыі.

Пад яго кіраўніцтвам партыя мабілізавала рабочы клас на барацьбу за соцыялізм, разграміўшы трацкістаў, правых і правалявацкі блок.

Пад яго кіраўніцтвам ленінскі Цэнтральны Камітэт загартаваў нашу партыю, адстаяў партыйны апарат ад нападу ворагаў.

Пад яго кіраўніцтвам наша партыя стала ўсімі прызнаным перадавым атрадам працоўных у барацьбе за соцыялізм. Пад яго кіраўніцтвам як ніколі ўзнялося званне члена ленінскай партыі, як ніколі ўзрос аўтарытэт партыі ў краіне.

Соцыялізм у СССР перамог перш за ўсё ў барацьбе з трацкізмам і правым апартунізмам, у барацьбе з класавымі ворагамі ўсіх масцей і адценняў.

* * *

Совецкая дзяржава развівалася пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Перамогі нашай дзяржавы ёсць перш за ўсё перамогі партыі Леніна—Сталіна, ажыццяўлення яе праграмы, палітыкі і тактыкі. Вось чаму працоўныя СССР, упершыню ў гісторыі совецкай дзяржавы, запісалі ў новай Канстытуцыі, у сто дваццаць шостым артыкуле, што комуністычная партыя з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных.

Сталінская Канстытуцыя выходзіць з таго, што ў нашым грамадстве, якое ў корані сваім з'яўляецца соцыялістычным, у якім няма ўжо эксплаататараў, а два класы—рабочыя і сяляне—жывуць у непарыўнай дружбе, можа быць толькі адна партыя, комуністычная партыя. Канстытуцыя прадастаўляе права найбольш актыўным і свядовым грамадзянам як з радоў рабочага класа, так і іншых слаёў працоўных, аб'ядноўвацца ва Ўсесаюзную Комуністычную Партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу.

Гэтым актам працоўныя Совецкага Саюза сказалі сваё слова аб гераічнай партыі большэвікоў, якая адстаяла заваёвы вялікай Окцябрскай рэволюцыі ў барацьбе супроць класавага ворага, у барацьбе з контррэволюцыяй і ў прыватнасці з такімі заядлымі ворагамі народу, як трацкісты, правыя апартуністы і нацыянал-дэмакраты.

Працоўныя СССР гэтым актам не толькі выразілі адносіны нашай партыі да мінулага, але і заявілі аб сваёй бясспрэчнай згодзе з тымі мэтамі, за якія наша партыя змагаецца, бо партыя большэвікоў на чале з вялікімі пролетарскімі стратэгамі і арганізатарамі—Леніным і Сталіным—змагалася і змагаецца за інтарэсы працоўных.

Комуністычная партыя—вышэйшая форма арганізацыі рабочага класа, партыя барацьбы за комунізм. Пад яе кіраўніцтвам рабочы клас змагаўся з ворагам і стаў кіраўніком усяго грамадства, пад яе сцягамі змагаліся і перамаглі ў барацьбе за соцыялізм усе працоўныя нашай краіны.

Пад сцягам ленінска-сталінскай партыі, пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна народы СССР аднадушна і згуртавана пойдуць да новых перамог.

# Палкі трыбун рэвалюцыі

1 снежня 1934 года ў Ленінградзе здрадніцкім стрэлам фашысцкага агента з трацкісцка-зіноўеўскай банды быў забіты адзін з лепшых барацьбітоў і кіраўнікоў слаўнай ленінска-сталінскай партыі, палкі трыбун рэвалюцыі—**Сергей Міронавіч Кіраў.**

Сергей Міронавіч быў адным з лепшых сыноў рабочага класа, бліжэйшым саратнікам вялікага Сталіна. Ён непахісна стаяў на сваім баявым пасту.

> «Тав. **Кіраў** прадстаўляў сабой узор большэвіка, які не ведаў страху і труднасцей у дасягненні вялікай мэты, пастаўленай партыяй. Яго прамата, жалезная стойкасць, яго здзіўляючыя якасці натхнёнага трыбуна рэвалюцыі спалучаліся ў ім з той сардэчнасцю і мяккасцю ў асабістых таварыскіх і сяброўскіх адносінах, з той прамянiстай цеплынёй і скромнасцю, якія ўласцівы сапраўднаму ленінцу» *).

На працягу 30 год свядомай, самаадданай рэвалюцыйнай барацьбы за перамогу соцыялістычнай рэвалюцыі, за пабудову новага бяскласавага грамадства таварыш Кіраў прашоў шлях ад радавога байца да аднаго з любімейшых кіраўнікоў, правадыроў партыі і совецкага народу.

Сергей Міронавіч Кіраў заваяваў гарачую любоў і павагу сярод шырокіх мас працоўных нашай краіны сваёй адданасцю справе рабочага класа. Як палкі барацьбіт, верны саратнік Леніна і Сталіна, Сергей Міронавіч праводзіў жорсткую непрымірымую барацьбу з малейшымі спробамі ўхілаў ад генеральнай лініі партыі. З усёй сілай адданасці і непахіснай паслядоўнасці Сергей Міронавіч сваім арганізатарскім талентам змагаўся за ажыццяўленне вучэння Леніна—Сталіна, за захаванне чыстаты і маналітнасці радоў баявога авангарда рабочага класа—партыі большэвікоў.

Сергей Міронавіч увасабляў барацьбу рабочага класа, усіх прыгнечаных і эксплаатуемых за вызваленне ад гнёту капітала, за стварэнне новага, радаснага, шчаслівага жыцця. Ён увасабляў непераможную энергію і волю рабочага класа ў барацьбе з усякімі перашкодамі і труднасцямі на шляху пабудовы соцыялізма. Ён заўсёды стаяў на перадавых пазіцыях барацьбы за ператварэнне ў жыццё вучэння вялікіх правадыроў—Леніна і Сталіна. Сваім арганізатарскім талентам ён узнімаў на штурм новых вышынь эканамічнага і культурнага развіцця нашай краіны, узначальваў працоўныя масы аднаго з буйнейшых прамысловых і культурных цэнтраў нашай краіны—горада Леніна і Ленінград-

---

*) Гл. апублікаваны з повару зладзейскага забойства тав. Кірава дакумент, падпісаны тт. Сталіным, Молатавым, Варашылавым, Кагановічам і іншымі бліжэйшымі саратнікамі вялікага Сталіна.

скай обласці. Асабістым прыкладам палкага рэволюцыйнага барацьбіта ён захапляў шырокія масы, накіроўваў іх энтузіязм і энергію на дасягненне пастаўленай партыяй і яе правадырамі—Леніным і Сталіным—мэты: на пабудову комуністычнага грамадства.

«Работа, таварышы, не толькі захапляючая,—гаварыў таварыш Кіраў у сваёй апошняй прамове на XVII з'ездзе ВКП(б),—але работа вельмі цяжкая, вельмі складаная і вельмі адказная. Але калі мы маем такі гераічны рабочы клас, які насяляе нашу Совецкую краіну, калі мы маем такую партыю, якую выпеставаў найвялікшы з людзей—Владзімір Ільіч Ленін,... партыю, якая не ведае ніякіх прапон, ніякіх перашкод, партыю, у якой у праваце сваёй справы няма ні малейшага сумнення, я думаю, што з такой партыяй, з такім рабочым класам, задачы, якія стаяць уперадзе, не толькі вырашальны, але вырашальны бліскуча і вырашальны пераможна, тым больш, што асноўныя труднасці ўжо засталіся ззаду».

У гэтых словах палкага рэволюцыйнага барацьбіта гучыць непахісная вера ў трыумф соцыялізма і канчатковую перамогу комунізма. Кіпучая энергія, арганізатарскія здольнасці і нястомная работа Сергея Міронавіча заражала шырокія масы працоўных у іх імклівым руху да соцыялізма і комунізма. Але не дажыў ён да радасных дзён, калі Сталінская Канстытуцыя—Асноўны Закон СССР—замацавала канчатковую перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Зладзейская рука фашысцкага найміта з тройчы ганебнай трацкісцка-зіноўеўскай зграі абарвала жыццё палкага барацьбіта і арганізатара мас. Кіраў паў у барацьбе двух светаў: свету, які цягне ўсё чалавецтва ў бяздонне цемры, жабрацтва, пакут і галоднай смерці, і свету, які змагаецца за канчатковую ліквідацыю эксплаатацыі чалавека чалавекам, за ліквідацыю класаў, за пабудову новага, бяскласавага комуністычнага грамадства.

Здрадніцкі стрэл у палкае сэрца арганізатара соцыялістычных перамог выклікаў абурэнне і ненавісць да агалцелых ворагаў народу і разам з тым узняў большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць партыі і працоўных мас усяго Совецкага Саюза.

Узросшая пільнасць і непрымірымасць да класавых ворагаў садзейнічала выкрыццю ўсёй зграі агалцелых фашысцкіх белабандытаў з трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра, якія рыхтавалі нечуванае ў гісторыі па сваёй подласці забойства вялікага правадыра ўсіх працоўных таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў.

Подлыя агенты трацкісцка-зіноўеўскай банды ў саюзе з самым ад'яўленым ворагам усяго прагрэсіўнага чалавецтва—фашызмам—арганізавалі тэрарыстычна-дыверсійныя і шпіёнскія групы з адзінай мэтай звергнуць совецкую ўладу і аднавіць капіталістычную сістэму ў нашай краіне. На Кемераўскіх рудніках у Кузбасе яны забівалі і калечылі лепшых стаханаўцаў-гарнякоў. Двурушнічаючы, яны імкнуліся патаемна, з-за вугла, нанесці ўдар партыі і рабочаму класу. Аднак не ўдалося і не ўдасца ім гэта. Партыя пад кіраўніцтвам свайго геніяльнага правадыра выкрыла сапраўдны твар капіталістычных рэстаўратараў з трацкісцка-зіноўеўскай банды і іх абаронцаў з правых адшчапенцаў.

Высокая рэволюцыйная пільнасць, цвёрдасць і дальнезоркасць сталінскага кіраўніцтва, бязмежная адданасць усяго совецкага народу ленінска-сталінскай партыі, выдатная работа верных вартавых пролетарскай дыктатуры—слаўных чэкістаў з Наркамата ўнутраных спраў

дала магчымасць выкрыць капіталістычных рэстаўратараў з трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай банды і разграміць іх змяіныя гнёзды. Але гэта не дае нам права аслабіць рэволюцыйную пільнасць. Нельга забываць, што главар банды «Іудушка» Троцкі, укрываючыся ў капіталістычных краінах, будзе імкнуцца ў саюзе з Гестапо перакідаць сваіх новых агентаў—дыверсантаў, тэрарыстаў, шпіёнаў. Кожны комуніст, кожны совецкі грамадзянін заўсёды павінен памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, што: «рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Асабліва гэта важна памятаць нам, бо мы працуем на мяжы з капіталістычным захадам. Увесь ланцуг гнуснага здрадніцтва—забойства Сергея Міронавіча Кірава, працэс над азвярэлай бандай капіталістычных рэстаўратараў і тэрарыстаў з трацкісцка-зіноўеўскай банды ў Маскве і на Кемераўскіх рудніках—гавораць аб тым, што ворагі соцыялізма не спынілі барацьбы з партыяй і Совецкай уладай. Таму кожны большэвік, партыйны і непартыйны, павінен умець выкрываць і разіць ворага, як-бы ён ні маскаваўся.

Раздушыць гадзіну—вось адзіны адказ усяго совецкага народу на здрадніцтва і зладзейскія ўчынкі трацкісцка-зіноўеўскіх мярзаўцаў, рэстаўратараў капіталізма.

Сергей Міронавіч Кіраў не дажыў да слаўных дзён Сталінскай Канстытуцыі. Ён паў у барацьбе за новае, радаснае, заможнае, шчаслівае жыццё. Яго няма ў нашым асяроддзі, але справа, за якую ён змагаўся і загінуў на баявым пасту ад рукі класавага ворага,—жыве.

Пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна совецкі народ атрымлівае перамогу за перамогай. Вянцом яго барацьбы з'яўляецца Сталінская Канстытуцыя. У гэтым сусветна-гістарычным дакуменце запісана тое, што заваявана совецкім народам за 19 год барацьбы.

У сваёй гістарычнай прамове, падводзячы вынікі нашай дзевятнаццацігадовай барацьбы, таварыш Сталін адзначыў, што

> «поўная перамога соцыялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам,... што эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага совецкага грамадства».

Увесь совецкі народ з вялікай радасцю і лікаваннем сустрэў прамову свайго любімага правадыра і Сталінскую Канстытуцыю, якая дае яму права на працу, на адпачынак, на асвету незалежна ад полу і нацыянальнасці, на забяспечанне старасці. Совецкі народ атрымаў самую дэмакратычную канстытуцыю ў свеце.

> «... Новая Канстытуцыя СССР будзе абвінавачаўчым актам супроць фашызма, гаворачым аб тым, што соцыялізм і дэмакратыя неператоржны» **(Сталін).**

На чале з таварышом Сталіным партыя большэвікоў, верным сынам якой быў Сергей Міронавіч Кіраў, прывяла нашу краіну да соцыялізма і павядзе ўвесь совецкі народ да новых перамог па шляху к комунізму. Справа комунізма, за якую аддаў сваё жыццё Сергей Міронавіч Кіраў,—пераможа!

---

**А. Варончанка**

Сакратар Кагановіцкага РК КП(б)Б

# Давесці да свядомасці мас кожнае слова правадыра, кожнае слова Сталінскай Канстытуцыі

Давесці да свядомасці кожнага працоўнага найвялікшы дакумент нашай эпохі—Сталінскую Канстытуцыю—задача кожнай партарганізацыі, кожнага члена партыі.

«Мы ганарымся тым,—пішуць таварышу Сталіну прапагандысты Масквы,—што партыя даверыла нам прапаганду вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Сталінская Канстытуцыя і Ваш гістарычны даклад на Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Саветаў яшчэ вышэй узнялі нашу ідэйна-палітычную ўзброенасць.

З радасцю і гордасцю мы будзем тлумачыць найшырэйшым масам Асноўны Закон нашай соцыялістычнай радзімы—новую Канстытуцыю, у якой кожны радок, кожнае слова дышуць сталінскай мудрасцю, сталінскімі клопатамі аб чалавеку».

Ганаровы абавязак кожнага члена партыі—дэтальна вывучыць даклад таварыша Сталіна, кожны пункт Сталінскай Канстытуцыі, сур'ёзна папрацаваць над матар'яламі З'езда, каб дапамагчы працоўным глыбока засвоіць і ўясніць іх.

Выходзячы з гэтага, уся агітацыйна-палітычная работа ў нашым раёне накіравана на тое, каб дапамагчы кожнаму працоўнаму цвёрда вывучыць і ўсвядоміць правы і абавязкі грамадзяніна СССР, кожны радок, кожнае слова новай Канстытуцыі, прасякнутай сталінскай мудрасцю і клопатамі аб чалавеку.

* * *

Рабочыя масы і совецкая інтэлігенцыя Кагановіцкага раёна сустрэлі гістарычны даклад таварыша Сталіна і зацверджанне новай Канстытуцыі СССР з выключна высокім уздымам і натхненнем. Хваля палітычнай і вытворчай актыўнасці ў сувязі з дакладам таварыша Сталіна дасягнула велізарных памераў.

Зацверджанне З'ездам новай Канстытуцыі было ўспрынята як факт усенароднай перамогі сусветнага значэння.

Выступленні на сходах, прысвечаных дакладу таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі, даюць яркі малюнак палітычнага росту рабо-

чых і інтэлігенцыі, сведчаць аб іх высокай палітычнай свядомасці, аб дзяржаўным падыходзе да ацэнкі падзей і фактаў, аб уменні зрабіць глыбокія палітычныя вывады, аб жаданні падмацаваць свае лепшыя пачуцці да партыі і яе правадыра канкрэтнымі стаханаўскімі справамі. Кожнае выступленне прасякнута вострай нянавісцю да ганебных ворагаў народу—контррэвалюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў агентаў Гестапо подлых рэстаўратараў капіталізма.

Умацаванне дыктатуры рабочага класа, далейшае павышэнне класавай пільнасці, ахова соцыялістычнай уласнасці, узмацненне абараназдольнасці краіны—вось што з'яўлялася стрыжнем усіх выступленняў на сходах і мітынгах.

Як да вялікага свята, рыхтаваліся працоўныя раёна к дню адкрыцця З'езда. Кожны правяраў спраўнасць радыёапаратуры. Партыйныя арганізацыі падрыхтавалі для радыёслухання аўдыторыі, клубы, чырвоныя куткі, сталовыя.

На фабрыцы «Окцябр» даклад слухала 1380 чалавек. Радыёаўдыторыі большасці прадпрыемстваў і ўстаноў не ўмяшчалі жадаючых слухаць даклад. Групавое слуханне было арганізавана таксама і на кватэрах. Выбухі апладысментаў слухачоў зліваліся з авацыямі дэлегатаў З'езда. Словы пролетарскага гімна, гучаўшыя з залы З'езда, з палкім натхненнем падхапляліся ў радыёаўдыторыях.

Агромную палітычную актыўнасць, адданасць і згуртаванасць вакол партыі, вакол вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна паказала дэманстрацыя 6 снежня ў гонар прыняцця Канстытуцыі. Вуліцы былі заліты морам лікуючых людзей, сцягамі, плакатамі, лозунгамі, грымела музыка і песні. Гэта было свята найвялікшых перамог соцыялізма.

Як толькі прышлі газеты з тэкстам даклада таварыша Сталіна, партарганізацыі прадпрыемстваў, совецкіх і навучальных устаноў раёна арганізавалі чыткі. Прапагандысты і агітатары правялі гутаркі ў групах, брыгадах, у цэхах, установах. Адкрытыя партыйныя сходы прыцягнулі вялікую колькасць беспартыйных рабочых і служачых. У партгрупе тав. Фрэнклах (швейная фабрыка «Окцябр») прысутнічала 18 комуністаў, 21 комсамолец, 198 беспартыйных, у партгрупе тав. Файнгенбоген—18 комуністаў, 21 комсамолец і 101 беспартыйны.

З вялікім уздымам прашлі сходы, прысвечаныя вынікам З'езда Советаў. У цэлым радзе выпадкаў з дакладамі выступалі дэлегаты З'езда.

Радасць і гордасць за сваю вялікую радзіму, за шчаслівае светлае жыццё гучэлі ў выступленнях рабочых.

Стары рабочы швейнай фабрыкі «Окцябр» тав. **Пастэрнак** гаварыў:

«Я перанёс эксплаатацыю капіталістаў. Успамінаючы цяжкае мінулае, я не знаходжу слоў для выражэння любві і адданасці таварышу Сталіну, які выцягнуў нас з рабства і прыгнечання і забяспечыў шчаслівае жыццё, так проста і ясна адлюстраванае ў Канстытуцыі».

Стаханавец той-жа фабрыкі тав. **Лысёнак** усхвалявана заявіў:

«Я люблю сваю радзіму з таго часу, як пролетарыят узяў уладу ў свае рукі. Я бясконца шчаслівы тым, што бачу багатай і радаснай сваю краіну, якой кіруе вялікі геній чалавецтва—таварыш Сталін».

Старога рабочага той-жа фабрыкі тав. **Рабіновіча** ўважліва слухала моладзь: Ён абрысаваў жудасны малюнак жыцця моладзі ў мінулым:

«Моладзі нашай, на шчасце, не давялося пераносіць уніжэнне чалавечай годнасці, цяжар эксплаатацыі і здзекі. У стары царскі час разам са сваім бацькам я працаваў у гаспадара па 16 гадзін у суткі. Мы жылі ў вялікай беднасці. Толькі Вялікая Окцябрская рэволюцыя вызваліла нас ад эксплаатацыі. 1917 год я лічу годам свайго нараджэння. Толькі ў нашай свабоднай краіне я і мае дзеці маем магчымасць карыстацца ўсімі пладамі культурнага, радаснага жыцця».

Кожнае выступленне рабочых было прасякнута пачуццем бязмежнай любві да сваёй радзімы.

Малады рабочы малочнага завода тав. **Лазарэвіч** з абурэннем гаварыў аб фашысцкіх падпальшчыках вайны і адзначыў вялікі рост сярод моладзі совецкага патрыятызма:

«У адказ на заклік менжынцаў,—заявіў ён,—я першы іду вучыцца лётнай справе і грудзьмі стану на абарону сваёй радзімы, якая ў сталінскай Канстытуцыі забяспечыла нам шчаслівае жыццё».

Аб жаданні вучыцца лётнай справе заявілі таксама рабочыя малочнага завода тт. Позняк, Красоўскі, Тамела, Знаскоў, Захаркоў, Шымановіч і многія іншыя.

Работніца-стаханаўка хімфармзавода тав. **Карнавіцкая** закончыла сваю прамову словамі:

«На кожным кроку мы адчуваем сталінскія клопаты аб людзях. Мы не пашкадуем жыцця за нашу радзіму, за дарагога таварыша Сталіна».

Памочнік начальніка аднаго з цэхаў хімфармзавода тав. **Васільеў** сказаў:

«Новая Канстытуцыя адкрывае шлях да комуністычнага грамадства. Яна фіксуе і замацоўвае дасягненні ў пабудове соцыялізма, якіх мы дабіліся пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Новымі вытворчымі паказчыкамі пакажам ворагу нашу магутнасць».

Рабочы цагельнага завода № 1 тав. **Блажэвіч** адзначыў:

«Старыя рабочыя раней і марыць не маглі аб праве на працу, адпачынак, асвету і соцыяльнае страхаванне. Усё гэта дала нам цяпер партыя і яе кіраўнік—наш родны, любімы таварыш Сталін. Нам трэба яшчэ больш згуртаваць свае рады, падзесяцярыць пільнасць, каб множыць заваёвы. Я буду павышаць сваю кваліфікацыю і набыты вопыт перадаваць таварышам.»

Шматлікія пытанні і выступленні працоўных па тэксту Сталінскай Канстытуцыі гавораць аб найвялікшай цікавасці да кожнага яе пункта. Асаблівую цікавасць выклікаў раздзел аб асноўных правах і абавязках грамадзян. Свае гутаркі па гэтаму пытанню агітатары ўвязвалі з жыццём рабочых данага прадпрыемства, прыводзячы для ілюстрацыі шматлікія мясцовыя факты.

Стары рабочы малочнага завода тав. **Гарэлік** прыводзіць прыклад са свайго жыцця:

«Я працую 48 год. У стары час быў зусім нятраматным. Совецкая ўлада дала мне магчымасць скончыць соўпартшколу. Калі-б я быў маладзейшы, то абавязкова вучыўся-б у Інстытуце. Раней я працаваў 16 гадзін у суткі, а зараз—7 гадзін. Я добра забяспечаны. У Сталінскай Канстытуцыі запісана права на працу,

адпачынак. Курортамі, санаторыямі, дамамі адпачынку карысталіся сёлета 52 рабочыя нашага маленькага завода. Вось лепшы довад таго, што наша Канстытуцыя—не абяцанне, а факт».

Даклад таварыша Сталіна і новая Канстытуцыя выклікалі агромны энтузіязм сярод навуковых работнікаў, спецыялістаў, служачых і студэнцтва.

Дэлегат VIII Усесаюзнага З'езда прафесар **Ермаленка** з вялікім натхненнем расказвае:

«Пачуцце шчасця і радасці за наша выдатнае жыццё, пачуцце бясконцай любві і адданасці таварышу Сталіну, пачуцце гордасці за нашу Канстытуцыю—гэтыя пачуцці ў нас не пагаснуць ніколі. Наша совецкая інтэлігенцыя была шырока прадстаўлена на Надзвычайным З'ездзе. Агромная армія совецкай інтэлігенцыі, якая самааддана змагаецца за соцыялізм,—гэта таксама факт, а не абяцанне. Мы добра ведаем, што да рэволюцыі на Беларусі зусім не было ні вышэйшых навучальных устаноў, ні студэнтаў, ні прафесароў. А зараз дзесяткі тысяч студэнтаў забяспечваюцца ў нас усім неабходным для вучобы. У прамовах дэлегатаў рэспублік мы чулі аб дасягненнях паасобных прадпрыемстваў, калгасаў і наглядна ўяўлялі сабе малюнак нашага квітнеючага вялікага Совецкага Саюза».

Эканаміст Дзяржплана БССР тав. **Касмовіч** гаворыць:

«У 1923 годзе я прыехаў у СССР з польскай вёскі цёмным, забітым і напоўграматным. Тут мне адчынілі вочы. Я атрымаў вышэйшую адукацыю і кваліфікацыю эканаміста. Мой брат, які прыехаў у совецкі Саюз, таксама паступае ў вышэйшую навучальную установу. Ёсць яшчэ і трэці брат, які знаходзіцца ў фашысцкай Польшчы. Ён зусім няграматны, не можа нават пісьмо напісаць і цягне марнае жыццё».

Студэнт Юрыдычнага Інстытута тав. **Аўчынскі** расказвае:

«Я быў рабочым віцебскага чыгуначнага вузла. Зараз вучуся на III курсе Інстытута. Толькі ў СССР, дзякуючы клопатам комуністычнай партыі і таварыша Сталіна, я—радавы рабочы—атрымаў права на адукацыю ў вышэйшай навучальнай установе».

Тав. **Фадзееў**—беспартыйны, эканаміст—асабліва спыняецца на II раздзеле даклада таварыша Сталіна:

«Хочацца жыць і працаваць,—гаворыць ён.—Словы таварыша Сталіна аб тым, што асабістыя здольнасці грамадзян вызначаюць іх месца у грамадстве, ёсць вялікія словы, за якія змагалася прагрэсіўнае чалавецтва. У Совецкім Саюзе слова чалавек гучыць горда, як сказаў Максім Горкі. Совецкая інтэлігенцыя аддасць усе сілы на далейшае ўмацаванне сваёй радзімы».

Тав. **Ліўшыц**—служачая УН'У—гаворыць аб моладзі:

«Для нашай моладзі завяявана права на працу, на адукацыю. Ва УНХУ з 40 комсамольцаў 10 маюць вышэйшую адукацыю. У мінулым яны-б ніколі гэтага не дасягнулі. Я, дачка служачага, безумоўна не магла-б марыць аб дасягнутым мною зараз. Я хачу тут вынесці шчырую падзяку таварышу Сталіну за добрае і раднасе жыццё».

* * *

На большасці прадпрыемстваў нашага раёна—ў швейнай прамысловасці, шчотачнай, на ф-цы імя Куйбышэва і т. д.—працуюць пераважна жанчыны. Партарганізацыі ўлічылі гэту асаблівасць у сваёй

агітацыйнай рабоце і праводзілі гутаркі аб ролі жанчыны ў соцыялістычным будаўніцтве.

У Сталінскай Канстытуцыі сказана:

«Жанчыне ў СССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця».

На сходах, мітынгах і ў гутарках работніцы ілюстравалі яркімі фактамі шырокія магчымасці, якія адкрывае Сталінская Канстытуцыя для ўдзелу жанчын у дзяржаўным будаўніцтве.

Вось што гаварылі работніцы.

Стаханаўка-комсамолка першага цагельнага завода тав. **Пратасава:**

«Толькі ў СССР жанчына з'яўляецца роўнапраўнай. У нас ёсць жанчыны-лётчыкі, інжынеры, камбайнеры, старшыні сельскіх і раённых советаў. У нас жанчыны кіруюць дзяржавай нароўні з мужчынай. Я працую па-стаханаўску, вучуся ў палітшколе. У сучасны момант вылучана майстрам групы прэсазмены. А што мае жанчына за мяжой? Яна з'яўляецца хатняй гаспадыняй, не вучыцца, у дзяржаўным апараце не ўдзельнічае, пазбаўлена голасу і ўсякага права. Нам, жанчынам СССР, усе правы дала партыя, наш родны таварыш Сталін. Дзякуй Сталіну за шчаслівае і радаснае жыццё!»

Работніца малочнага завода тав. **Дрэйцэр:**

«Хоць мне 50 год, але я лічу сябе маладой. Сталінская Канстытуцыя ўліла ў мяне маладосць і энергію, якія я аддам цалкам на соцыялістычнае будаўніцтва».

Работніца абутковай фабрыкі імя Тэльмана тав. **Бельская:**

«Дзякуючы Совецкай уладзе я атрымала шчаслівае, радаснае жыццё і маю поўную магчымасць забяспечыць сябе і сваіх дзяцей. З жахам успамінаю той час, калі я працавала батрачкай у памешчыка. З грудным дзіцём на руках мне прыходзілася хадзіць на работу за 5 кілометраў. Бывала, выйдзеш з дому а 5 гадзіне раніцы, а вернешся толькі а 12 уночы. Зарабляла ў дзень 15 капеек. Прышоўшы ў брудную курную хатку, мне, як гаспадыні, прыходзілася працаваць яшчэ 2—3 гадзіны, каб прыгатаваць дзецям паесці. Спаць не было калі. Так дзень за днём праходзіла маё жыццё. Зараз я працую толькі 7 гадзін. Жыву радасна. Дзеці мае граматныя, вышлі ў людзі. А ўсё гэта дала рабочаму класу наша комуністычная партыя, наш родны, вялікі Сталін».

Работніца фабрыкі «Окцябр» тав. **Баброва:**

«У мяне 6 чалавек дзяцей. З такой сям'ёю ў капіталістычных краінах жанчына-маці асуджана на галодную смерць. У Совецкім Саюзе, дзе краінай кіруе комуністычная партыя на чале з таварышом Сталіным, мае дзеці з дня нараджэння агорнуты сталінскай любоўю і ўвагай. У краіне радасці і шчасця я выхоўваю шэсць будаўнікоў комунізма».

Работніца скургалантарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва тав. **Кандрацюк:**

«Мае бацькі да рэволюцыі жылі вельмі бедна. Праца тады не цанілася. Бацька працаваў дзень і ноч, а сям'я заўсёды жыла ўпрогаладзь. Інакш жывем мы ў сталінскі час. Рабочы клас заваяваў сабе правы, якія запісаны ў Сталінскай Канстытуцыі. Да рэволюцыі я не магла і марыць аб тым, што буду калі-небудзь

абрана ў органы ўлады. Дзякуючы роўнапраўю жанчын у нашай краіне, я з'яўляюся членам горсовета, дэлегатам XII Надзвычайнага З'езда Советаў БССР. Як стаханаўка, абрана рабочым калектывам у фабком. Я ўступіла ў групу спачуваючых і рыхтуюся стаць членам вялікай партыі Леніна—Сталіна. Жыццё маіх бацькоў зусім змянілася. У кватэры—партрэты нашых правадыроў, святло, іграе радыё. Малодшыя дзеці ўсе вучацца. Мая матка, як многадзетная, атрымала ад нашай дзяржавы дзве тысячы рублёў. У гонар Сталінскай Канстытуцыі мы павінны яшчэ лепш працаваць і штодзенна дзякаваць таварыша Сталіна за радаснае і шчаслівае жыццё».

Маладая работніца той-жа фабрыкі тав. **Маліноўская:**

«Права на працу, права на асвету, права на адпачынак—вось што запісана ў Сталінскай Канстытуцыі. Усё гэта з'яўляецца толькі марай для моладзі капіталістычных краін. У той час, як яна асуджана на голад і беспрацоўе, наша моладзь жыве шчаслівым, радасным жыццём. Праца для нас з'яўляецца справай гонару, адвагі і геройства. Я працавала на менскай ЦЭЦ, мабілізаваная комсамольскай арганізацыяй. За ўдарную работу ўзнагароджана СНК БССР імянным гадзіннікам і граматай. Усё гэта магчыма толькі ў краіне социялізма. Совецкая моладзь шчыра дзякуе таварыша Сталіна за шчаслівае жыццё».

* * *

З яркімі, палітычна завостранымі справаздачамі выступілі на сходах рабочыя—дэлегаты VIII З'езда Советаў. Іх даклады поўны найглыбейшага захаплення ад сустрэчы з таварышом Сталіным і яго саратнікамі, шчырага жадання аддаць усе свае сілы і здольнасці справе Леніна—Сталіна.

Дэлегат З'езда ініцыятар стаханаўскага руху ў абутковай прамысловасці БССР рабочы абутковай фабрыкі імя Кагановіча тав. Гірш **Скабло** адзначыў:

«Рабочыя гаварылі, што яны мне зайздросцяць, бо я бачыў таварыша Сталіна. Праўда, таварышы, ёсць чаму зайздросціць. Бачыць нашага роднага, любімага Сталіна—гэта сапраўды вялікая радасць і шчасце. На з'ездзе я бачыў, як людзі ад радасці плакалі. Вось як было. Я наглядна бачыў там сталінскую палітыку дружбы народаў. Я бачыў дружбу ўсіх народаў, усіх працоўных Совецкага Саюза. У адказ на Сталінскую Канстытуцыю мы павінны яшчэ лепш працаваць, вышэй узнімаць прадукцыйнасць сваёй працы, цясней згуртавацца вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол нашага любімага правадыра, генія чалавецтва—таварыша Сталіна».

Агромны інтарэс, выкліканы дакладам таварыша Сталіна і новай Канстытуцыяй СССР, быў скарыстаны для арганізацыі калектыўнага абмеркавання і вывучэння іх на кватэрах рабочых. У хатняй таварыскай абстаноўцы абмяркоўваліся ўсе ўзнікаючыя пры гэтым пытанні. Рабочыя разам з утрыманцамі дзяліліся сваімі ўспамінамі аб мінулым і параўноўвалі яго з сённешнім светлым жыццём.

Партарганізацыя швейнай фабрыкі «Окцябр» правяла такія гутаркі на 20 кватэрах рабочых. Удзельнічала каля 600 чалавек.

З вялікай увагай праслухалі прысутныя прамову работніцы-ордэнаноскі Веры Еўсюцінай, якая выступіла пасля прачытання даклада таварыша Сталіна:

> «Я бясконца шчаслівa, што жыву ў сталінскі час. Мне толькі 23 гады, і я ўжо абмяркоўвала дакумент выключнага значэння— праект Сталінскай Канстытуцыі. У мяне нехапае слоў, каб выказаць усю любоў, усю адданасць нашай партыі, нашаму Сталіну, які вядзе нас ад перамогі да перамогі. Сталінская Канстытуцыя дае нам усе радасці жыцця. У нас моладзь квітнее, а старым забяспечана шчаслівая старасць».

Даклад таварыша Сталіна выклікаў велізарную палітычную актыўнасць мас, кожнае слова правадыра сустракалася працоўнымі з вялікім інтарэсам.

Пры чытанні даклада задаваўся рад пытанняў: «Што такое пацёмкінскія вёскі», або як разумець выражэнне «шчэдрынскія бюракраты», якавы карэнні нацыянальнай розні пры капіталізме, і т. д. Агітатары праводзілі спецыяльныя гутаркі аб «пацёмкінскай вёсцы», зачытвалі ўрыўкі з твораў Салтыкова-Шчэдрына і т. п. Гэтыя гутаркі праходзілі вельмі ажыўлена.

На кватэрах рабочых абутковай фабрыкі імя Кагановіча праведзены гутаркі аб Сталінскай Канстытуцыі.

12 снежня старыя рабочыя скургалантарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва сабраліся на кватэры работніцы футлярнага цэха тав. **Мінц.** Рабочыя тт. Нісенбаум, Леках, Гурвіч асабліва цікавіліся пытаннямі бясплатнай перадачы зямлі ў вечнае карыстанне калгасам, аб сутнасці тайных, прамых і роўных выбараў, аб прычынах павелічэння колькасці саюзных рэспублік, аб класах рабочых і сялян і асаблівасцях іх у сучасны перыяд, аб розніцы паміж краем і вобласцю, і т. д. Адказваў на пытанні агітатар. Усяго такіх гутарак праведзена 22.

На кватэрах стаханаўцаў завода «Ударнік» праведзены дзве гутаркі ў прысутнасці 65 чалавек. На кватэры рабочага швейнай фабрыкі «Окцябр» тав. Цырліна праведзена гутарка з жонамі рабочых і інжынерна-тэхнічнага персаналу.

Аб вялікім зруху ў масах сведчаць выступленні на сходах, прысвечаных вывучэнню даклада таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі, рабочых, якія ніколі не прымалі ўдзелу ў спрэчках.

На заводзе «Ударнік» выступілі ўпершыню маладыя рабочыя тт. Клочка і Красільшчыкаў. Яны з радасцю гаварылі аб тым, што выраслі ў шчаслівы час пры савецкай уладзе. 16-гадовы Красільшчыкаў абавязаўся рабіць 20 вагавых рычажкоў замест 10. 66-гадовы рабочы тав. Кацовіч, успамінаючы сваё ранейшае жыццё, адзначыў, што ўсе яго пяць дзяцей пры савецкай уладзе атрымалі сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Ён выказаў упэўненасць, што яшчэ дажыве і да камунізма.

Кожнае выступленне з'яўлялася яркай ілюстрацыяй таго, як народы былой поўкалоніі царскай Расіі, раней нацыянальна прыгнечаныя і загнаныя эксплаататарамі, цяпер, дзякуючы ажыццяўленню сталінскай нацыянальнай палітыкі і разгрому контррэвалюцыйнага нацдэмакратызма, атрымалі сваю дзяржаўнасць і сталі шчаслівымі грамадзянамі ордэнаноснай Савецкай Беларусі, якая ў дружбе з усімі народамі СССР дабілася велізарных поспехаў на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва.



Даклад правадыра на VIII З'ездзе Советаў быў адзначан датэрміновым выкананнем гадавога промфінплана. На многіх прадпрыемствах пастаўлены стаханаўцамі новыя рэкорды, узрасла колькасць двухсотнікаў.

Работніца швейнай фабрыкі «Окцябр» тав. Флейшэр у дні З'езда давяла выкананне плана да 220 проц., Коцікава—да 225, Кутман—да 210, Гапоненка—да 232, Калер—да 211 проц.

Група майстроў скургалантарэйнай фабрыкі імя Куйбышэва—таварышы Крашынскі, Рыкоўская, Савіна, Дыкштэйн, Перэнц, Башкова—сустрэла адкрыццё З'езда выкананнем гадавога плана і зараз ідзе ўперадзе па вытворчых паказчыках. Група майстра Крашынскага выканала план за першую дэкаду снежня на 167 проц., група майстра Савінай—на 194 проц., Башковай—на 193 проц. Стаханаўка закройнага цэха тав. Сонкіна к З'езду выканала план на 300 проц., Макарэвіч—на 250 проц., Фрыд—на 200 проц. Больш як на 200 проц. выконваюць план тт. Фунт, Тунік, Бабровіч, Робіна, Аніскевіч і інш. З моманту адкрыцця З'езда колькасць стаханаўцаў скургалантарэйнай фабрыкі павялічылася на 20 чал. У выніку творчага ўздыму фабрыка 29 лістапада выканала гадавы план на 100,1 проц., выпусціўшы прадукцыі на 13.266.000 руб., і ўзяла абавязацельства даць к канцу года дадатковай прадукцыі шырспажыву на 1.400.000 руб. За першую дэкаду выпушчана ўжо на 406.900 руб. прадукцыі звыш плана. Выпрацоўваецца 9 новых відаў скургалантарэі.

Паміж цэхамі завода «Ударнік» заключан дагавор па спаборніцтву на выкананне гадавога плана к 20 снежня. За 3 дні З'езда колькасць стаханаўцаў узрасла з 90 да 110 чалавек. Сталі стаханаўцамі ўдарнікі тт. Малаковіч, які выконвае ўжо норму на 150 проц., Апрэлеў—на 160 проц., Баброў—на 180 проц. і інш. Стаханавец Аронін, які ўзяў абавязацельства ў гонар З'езда, выконвае норму на 180 проц., Мульшанаў—на 200, Бельскі—на 140, Баравой—на 200 проц.

На хімфармзаводзе гадавы план выканан к 2 снежня. Стаханаўцы Краско, Лешчынская і інш. выконваюць норму на 200 проц. і больш.

На малочным заводзе гадавы план перавыканан. Калектыў абавязаўся давесці выкананне плана 1936 г. да 146 проц. За дні З'езда колькасць двухсотнікаў узрасла з 4 да 16 чалавек.

На абутковай фабрыцы імя Тэльмана стаханавец Кушнер давёў норму выпрацоўкі са 194 да 218 проц., Мурох—са 193 да 232 проц., Райко са 190 да 252 проц., Хейфец—са 183 да 217 проц. Стаханаўцы Шчэлкалін і Раманоўская давялі эканомію дэфіцытнага жорсткага тавару да 5 проц., што складае за два тыдні 113 пар падэшвы для дзіцячага абутку.

На шклозаводзе «Пролетарый» першая і другая змены выконваюць план на 102—109 проц. Тт. Камінскі, Фідрын, якія раней не выконвалі плана, зараз даюць 105—111 проц. нормы. Рабочыя Шостак і Чэрняк раней выконвалі план на 100 проц., а ў дні З'езда—на 123—130 проц.

Асаблівай увагі заслугоўвае ганаровая вытворчая сталінская вахта, праведзеная ў дзень даклада таварыша Сталіна. Падрыхтоўка пачалася яшчэ ў кастрычніку. Сярод комсамольцаў і моладзі шырока разгарнулася спаборніцтва. Ганаровае права быць удзельнікам сталінскай вахты давалася таму, хто к адкрыццю З'езда даб'ецца высокіх паказчыкаў на вытворчасці і ў галіне тэарэтычнай падрыхтоўкі.

Вось некаторыя вынікі спаборніцтва.

На абутковай фабрыцы імя Кагановіча ў гістарычны дзень 25 лістапада на сталінскую вытворчую вахту сталі 64 комсамольцы і 240 чал. моладзі. На радзе ўчасткаў стаханаўцы дасягнулі выключна высокай прадукцыйнасці. Закройны цэх, які 24 лістапада выканаў свой план толькі на 100 проц., 25-га даў 140 проц. Лепшыя стаханаўцы-комсамольцы перавысілі новыя нормы. Комсамолец Бернштэйн выканаў план на 200 проц., зарабіўшы ў гэты дзень 35 р. 85 к. Комсамолка Дзіснер выканала план на 168 проц., Лянгван—на 184 проц., Коган і Фраймовіч, якія раней не выконвалі плана, дабіліся ў гэты дзень 167 і 121 проц. У першым пашывачным цэху швейны агрэгат, упершыню за ўвесь час сваёй работы, даў 2.088 пар загатовак замест 1.700 па плану, зацяжны агрэгат апрацаваў 2.400 пар пры плане ў 1.700. Зацяжны агрэгат другога пашывачнага цэха апрацаваў 1.740 пар пры плане 1.600, а швейны агрэгат гэтага цэха, спаборнічаючы са швейным агрэгатам першага пашывачнага цэха, выпусціў 2.244 пары загатовак, перавысіўшы план на 40,2 проц. У гэтых цэхах комсамолец Гудаў выканаў план на 170 проц., Шчэрбіна—на 180, Данкевіч—на 280, Пруднікаў—на 168, Розенгауз—на 135. Несаюзная моладзь таксама дабілася высокай прадукцыйнасці працы. Напрыклад, Гершон выканаў план на 200 проц., Стрэльцова—на 230, Верамей—на 200, Якубоўская—на 182, Палавой—на 202, Сталярэнка—на 144.

Колькасць стаханаўцаў за гэты дзень узрасла на 21 чал. На шчотачнай фабрыцы імя Крупскай на сталінскую вахту стала 480 маладых рабочых, з іх 33 комсамольцы. 25 лістапада фабрыка выканала план на 106,3 проц.

Калектыў фабрыкі імя Куйбышэва стаў на сталінскую вытворчую вахту 25 лістапада а 9 гадзіне 30 мінут. За дэкаду да гэтага фабрыка выканала план на 109,8 проц., а 25-га—на 129,1 проц. Лепшыя ўзоры прадукцыйнасці ў дзень сталінскай вахты паказалі тт. Сонкіна—300 проц., Макарэвіч—254, Эйдвід—233, Гарохаў—298, Фунт—225, Шыло—240.

Рэкордных норм дабіліся і рабочыя хлебазавода, цэнтральных майстэрняў Менбуда, завода «Ударнік» і іншых прадпрыемстваў.

* * *

> «Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР. Служба ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе ганаровы абавязак грамадзян СССР».

Гэтыя словы Сталінскай Канстытуцыі памятае кожны грамадзянін. Выключнай любоўю акружана наша слаўная Чырвоная Армія—плоць ад плоці, кроў ад крыві народу. Кожны працоўны нашай краіны праяўляе вялікі інтарэс да ўмацавання яе абароназдольнасці і лічыць сваім свяшчэнным доўгам выканаць ганаровы абавязак грамадзяніна Совецкага Саюза—абараняць сваю любімую і шчаслівую бацькаўшчыну. Наш народ ведае аб лютых замыслах фашыстаў. У сваіх выступленнях працоўныя заяўляюць, што фашысцкая нага не ступіць на совецкую зямлю.

Наша слаўная непераможная Чырвоная Армія спаяна ў адзіную сям'ю з усім совецкім народам, які будуе для сябе новае, радаснае, шчаслівае жыццё. Паміж байцамі Чырвонай Арміі і рабочымі прадпрыемстваў, калгаснай масай і совецкай інтэлігенцыяй існуе цесная сувязь, аб якой ярка сведчаць паданыя ніжэй пісьмы.

Вось што піша рабочым фабрыкі імя Куйбышэва чырвонаармеец тав. Эйг:

«Я прачытаў у газеце «Рабочий» вельмі радаснае для мяне паведамленне. Фабрыка імя Куйбышэва, дзе я працаваў да прызыву ў рады РСЧА, нядаўна датэрмінова выканала гадавы план 1936 г.

Я, як былы стаханавец-двухсотнік на вытворчасці, а зараз баец нашай доблеснай, непераможнай Чырвонай Арміі, цалкам раздзяляю радасны, бадзёры настрой ўсяго рабочага калектыва фабрыкі.

Атрымаўшы навыкі стаханаўскіх метадаў работы, я гэтыя метады ўжываю ў сваёй практычнай вучобе па аўладанню ваеннымі ведамі. Мае ацэнкі па ўсваенню курса баявой і палітычнай падрыхтоўкі: «добра» і «выдатна». Запэўніваю партыйны і камсамольскі камітэты фабрыкі, што тыя заданні, якія ўскладзены на мяне ў РСЧА, я буду выконваць з гонарам. **А. Н. Эйг».**

Фабрыка імя Кагановіча атрымала пісьмо з граніцы:

«Дарагія таварышы! Паведамляем, што слова, данае намі вашай дэлегацыі, мы з поспехам апраўдалі, заваяваўшы першынства ў соцыялістычным спаборніцтве паміж пагранзаставамі на права ганаровай сталінскай вахты ў дзень адкрыцця VIII Надзвычайнага З'езда Саветаў.

У момант адкрыцця З'езда Саветаў лепшыя людзі нашай заставы тт. Буцейка, Сергееў, камандзіры аддзяленняў Азонаў, Тарасаў і інш. выйшлі на ганаровыя пасты.

За праяўленне высокай пільнасці і дысцыплінаванасці ў гэты дзень 13 чалавек атрымалі падзяку. Паведамляем вам, дарагія таварышы-шэфы, што і зараз няма ніводнага выпадку, каб вораг беспакарана парушыў граніцу на нашым участку.

Зараз мы приступілі да вывучэння даклада таварыша Сталіна.

У нашым падшэфным калгасе «Чырвоны росквіт» мы таксама арганізавалі вывучэнне даклада таварыша Сталіна.

Мы рыхтуемся к 20 снежня—XIX гадавіне ВЧК—АДПУ—НКВД і ўзялі на сябе цэлы рад абавязацельстваў па вучобе, дысцыпліне і выдатнай ахове дзяржаўнай граніцы. К гэтаму дню ўся застава будзе на «добра» ведаць даклад таварыша Сталіна, у гэты дзень мы адзначаем большэвіцкую работу нашых **лепшых чэкістаў.**

Пісьмо па даручэнню агульнага сходу заставы падпісалі лейтэнант Багадзісты (парторг), ком. аддз. Васільеў (комсорг). Пагранзастава «Мядзведзіха», Заходняя граніца СССР».

Агітатары, чытчыкі і бяседчыкі шырока скарысталі гэта пісьмо, правёўшы спецыяльныя гутаркі аб ахове нашых граніц. Рабочыя ўнеслі прапанову адказаць на пісьмо. Абмеркаванне адказу выклікала вялікую актыўнасць.

Вось што пішуць рабочыя пагранічнікам у пісьме, прынятым на агульнацэхавых сходах фабрыкі:

«Добры дзень, слаўныя чэкісты!

Калектыў Менскай абутковай фабрыкі імя Кагановіча шле вам сваё гарачае большэвіцкае прывітанне. Віншуем з атрыманай перамогай у соцыялістычным спаборніцтве пагранзастаў за права ганаровай сталінскай вахты ў дзень адкрыцця VIII З'ез-

да Советаў. Заваяваннем першынства вы яшчэ раз даказалі, што слова чэкіста ніколі не разыходзіцца са справай. Мы ганарымся вашым калектывам, горды думкай, што ў вас выхаваліся такія героі, як таварышы Буцейка, Сергееў, Азонаў, Тарасаў і іншыя, якія заваявалі ганаровае права несці сталінскую вахту.

Да адкрыцця VIII гістарычнага З'езда Советаў мы таксама старанна рыхтаваліся. Натхнёныя вывучэннем і абмеркаваннем праекта Сталінскай Канстытуцыі, мы шырока разгарнулі соцыялістычнае спаборніцтва ў цэхах, брыгадах, групах, агрэгатах, між паасобнымі стаханаўцамі. У рэзультаце сваю гадавую праграму—выпуск абутку ў 1936 г. на суму 11.578 тысяч руб.—мы выканалі датэрмінова—к 15 лістапада.

Нашы лепшыя людзі—ініцыятар стаханаўскага руху на фабрыцы і ў рэспубліцы тав. Скабло З., стаханаўка-ордэнаноска тав. Радоўжская, тт. Бернштэйн, Фельдман, Лянгман, Ганіч, Чайкоўская, Якубоўская, Старшкевіч, Поляк і іншыя—выканалі свае нормы ад 180 да 260 проц.

Мы ўзялі на сябе новае соцыялістычнае абавязацельства: даць краіне к канцу года на 100 тысяч рублёў дадатковай высокаякаснай прадукцыі і запэўніваем вас, слаўныя пагранічнікі, што свае абавязацельства выканаем.

Мы на працягу амаль поўгода старанна вывучалі і абмяркоўвалі праект Сталінскай Канстытуцыі ў цэхах, школах, у лагеры, на кватэрах. Яркія пацверджанні запісаных у Канстытуцыі заваяванняў мы знаходзім у нашым штодзенным радасным жыцці.

Цяпер мы старанна вывучаем даклад любімага правадыра народаў таварыша Сталіна на Надзвычайным VIII З'ездзе Советаў.

Палепшыць сваю работу абавязвае нас і той факт, што мы атрымалі вялікі гонар: наш прадстаўнік стаханавец Скабло Г. абран дэлегатам VIII З'езда Советаў СССР.

Агульным лікаваннем і новым вытворчым уздымам сустрэлі мы зацверджанне канчатковага тэкста Сталінскай Канстытуцыі.

Мы ўпэўнены, што наша мірная соцыялістычная праца ахоўваецца тысячамі герояў-пагранічнікаў, сярод якіх калектыў вашай заставы займае адно з перадавых месц.

Няхай жыве наша слаўная Чырвоная армія! Няхай жыве любімы правадыр народаў таварыш Сталін!»

Метад шырокага скарыстання перапіскі рабочых калектываў з Чырвонай Арміяй, з калгасамі для разгортвання палітычнай агітацыі ўпаўне апраўдаў сябе.

Даклад таварыша Сталіна і новая Канстытуцыя выклікалі вялікі парыў да замацавання абароназдольнасці краіны. Сярод моладзі раёна шырокі водгук знайшоў прызыў менжынцаў аб падрыхтоўцы 150 тысяч лётчыкаў. Па раёну падана 825 заяў аб жаданні набыць спецыяльнасць лётчыка.

Прыводзім некаторыя з гэтых заяў.

Рабочы-комсамолец швейнай фабрыкі «Окцябр» тав. **Пашкевіч** піша:

«Азнаёміўшыся з матар'яламі VIII З'езда Советаў і з заклікам рабочых завода імя Менжынскага аб падрыхтоўцы 150 тыс. лётчыкаў, я добра зразумеў, навошта гэта нам неабходна. Мы

не дамо фашыстам напасці на нас, пазбавіць нас такога прыгожага жыцця. Я хачу стаць лётчыкам, каб біць ворага з паветра, абараніць у патрэбны момант нашу слаўную соцыялістычную радзіму».

Работніца швейнай фабрыкі «Октябр» тав. **Еўсюціна** піша:

«Заслухаўшы паведамленне на мітынгу ў нашым цэху аб закліку менжынцаў падрыхтаваць 150 тыс. лётчыкаў, прашу прыняць мяне ў лётную школу. Парашуцісткай я ўжо стала, прыгала з парашутам, узнагароджана ордэнам «Знак почета» за пераход Масква—Менск, але лічу, што яшчэ мала зрабіла для таго, каб у патрэбны момант абараніць сваю шчаслівую радзіму.

Хачу аўладаць машынай у паветры, каб даць адпор фашыстам—ворагам народу, калі яны толькі пасмеюць на нас напасці».

Студэнт 2 курса Пед'інстытута комсамолец **Папіратовіч** піша:

«Поспехі нашай краіны азлабляюць нашых ворагаў, выклікаюць іх лютасць супроць Совецкага Саюза. Заключаныя дагаворы паміж фашысцкімі краінамі—Японіяй, Германіяй і Італіяй—яшчэ раз гавораць аб тым, што ваенная небяспека накіроўваецца ў першую чаргу супроць СССР.

Германскі фашысцкі генерал Герынг заявіў, што Германіі трэба падрыхтаваць 70 тыс. лётчыкаў.

Менжынцы высунулі лозунг: «Краіна соцыялізма павінна мець 150 тысяч лётчыкаў». Гэта радасна падхоплена комсамолам. Нашы совецкія лётчыкі ў патрэбны момант дадуць сакрушальны адпор ворагам чалавецтва. Лётная справа—кроўная справа нашага ленінскага комсамола. Я жадаю быць доблесным совецкім пілотам і ў любую мінуту па закліку ленінскага комсамола, па закліку партыі падняцца ў паветра, каб знішчыць ворага, які задумае напасці на нашу слаўную радзіму».

На 19 снежня праз мандатную камісію пры РК ЛКСМБ прашло 146 чалавек, падаўшых заявы аб жаданні вучыцца на лётчыкаў, праз медыцынскую камісію—125 чалавек.

Сталінская Канстытуцыя выклікала агромны энтузіязм сярод моладзі. Па тэме абароназдольнасці нашай краіны моладзь засыпала агітатараў пытаннямі. Новая Канстытуцыя выхоўвае ў совецкіх грамадзянах найвялікшае пачуцце чалавека сталінскай эпохі—пачуццё сапраўды совецкага патрыятызма, якому чужды эгаізм і трусасць.

Аб бязмежнай любві да нашай шчаслівай радзімы гаворыць заява студэнтаў 5 курса Мед'інстытута тт. Лісова, Арлоўскага, Бабраўніцкага, Мальчэнскага, Хацеева, Яўнайса, Мухаева, Пракаповіча і інш.:

«Натхнёныя вялікай Сталінскай Канстытуцыяй, мы, студэнты 5 выпускнога курса інстытута, жадаем па сканчэнні інстытута працаваць у Далёка-Ўсходнім краі. Усе мы—у большасці сваёй прызыўнікі РСЧА—жадаем працаваць і служыць у радах ОДВКА. Гераічная работа чырвоных пагранічнікаў на варце нашых далёка-ўсходніх граніц, упартая праца комсамольцаў над стварэннем новых гарадоў і пасяленняў на Далёкім Усходзе, геройства і мужнасць падводнікаў Ціхаакіянскага флота натхняюць нас стаць на абарону нашай радзімы там, дзе гэта найбольш патрабуецца. І такім месцам з'яўляецца Далёка-Ўсходні край, куды імкнецца сунуць сваё свіное рыла японскі імперыялізм.

Усе мы—у большасці выдатнікі вучобы, парашуцісты, значкісты ГТА і ВС. Мы думаем, што, як прадстаўнікі інстытута і беларускага народу, апраўдаем аказанае нам давер'е і будзем з гонарам выконваць даручаную нам работу. Прыбыць на месца работы мы хочам уласнымі сродкамі і фізічнымі сіламі—на веламашынах, з тым каб, атрымаўшы ў дарозе моцную загартоўку, быць здольнымі працаваць у ДВК ў любых умовах.

Наш велапаход мы хочам пачаць летам 1937 г. і скончыць к 20 гадавіне Вялікай Окцябрскай рэвалюцыі.

Просім дазволіць нам гэты пераход у гонар Сталінскай Канстытуцыі і яе тварца—вялікага Сталіна».

* * *

Нельга не адзначыць, што ў некаторых партарганізацыях раёна глыбокае вывучэнне даклада таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі пастаўлена слаба. Так, Інстытут нацменшасцей адвёў вывучэнню даклада таварыша Сталіна ўсяго адзін занятак замест устаноўленых 4—5. Партарганізацыі навучальных устаноў яшчэ мала ўвагі ўдзялілі растлумачэнню матар'ялаў З'езда, асабліва ў студэнцкіх інтэрнатах. Слаба выкарыстоўваюцца навуковыя работнікі-комуністы для ўсебаковага асвятлення пытанняў, звязаных з работамі VIII Усесаюзнага З'езда. Нізавы друк па-сапраўднаму не ўключыўся ў справу прапаганды матар'ялаў З'езда і Сталінскай Канстытуцыі. Шматтыражка Белдзяржуніверсітэта «За ленінскія кадры» моўчкі абышла пытанне аб тым, як успрынята Канстытуцыя студэнтамі і навуковымі работнікамі універсітэта. Не знайшоў адлюстравання З'езд Советаў і ў насценгазеце Вышэйшага педагагічнага інстытута.

Райком прыняў меры да выпраўлення гэтых недахопаў. На вывучэнне новай Канстытуцыі, гістарычнага даклада таварыша Сталіна і выступлення тав. Молатава адведзена ва ўсіх школах і гуртках палітграматы 10 заняткаў, у гуртках па гісторыі партыі і ў раённых партшколах адведзена 5 заняткаў.

Райком склікаў нараду прапагандыстаў партыйнай і комсамольскай сеткі, каб азнаёміць іх з парадкам вывучэння новай Сталінскай Канстытуцыі.

Пры парткабінетах прадпрыемстваў і навучальных устаноў арганізаваны выстаўкі і вітрыны кніг, брашур і плакатаў, прысвечаных гістарычнаму дакладу таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі.

У якасці дакладчыкаў выкарыстоўваецца партактыў і ў першую чаргу таварышы, якія прымалі ўдзел у З'ездзе Советаў.

Дэлегаты З'езда выступалі на спецыяльных вечарах для работнікаў промкаапераціі, на двух куставых сходах рабочых цагельнай прамысловасці, на вечары для работнікаў лясной кааперацыі і хатніх гаспадынь.

У святле новай Канстытуцыі кожны працоўны глыбей асэнсоўвае сваю ролю ў будаўніцтве соцыялізма. Наша задача—па-большэвіцку давесці да свядомасці мас кожнае слова правадыра, кожнае слова Сталінскай Канстытуцыі і працаваць так, як вучыць нас таварыш Сталін.

---

Э. Вайман

Сакратар Рагачоўскага РК КП(б)Б

# Узняць вышэй партыйна-масавую работу

Геніяльнейшыя стратэгі Вялікай пролетарскай рэволюцыі, стваральнікі і кіраўнікі большэвіцкай партыі таварышы Ленін і Сталін заўсёды папярэджвалі аб тым, што параднасць і шуміха ў партыйнай рабоце недапушчальны і шкодны.

Праверка і абмен партыйных дакументаў, праведзеныя па ініцыятыве і пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна, ярка пацвердзілі гэта ўказанне. Там, дзе сапраўдная крапатлівая работа па выхаванню комуністаў, павышэнню іх палітычнай узброенасці падмянялася палітычнай траскатнёй, параднасцю і шуміхай,—класавы вораг пад самым носам «сумленных партыйных балбатуноў і ратазеяў» спакойна тварыў сваю шкодніцкую падрыўную работу.

Судовы працэс над трацкісцка-зіноўеўскім тэрарыстычным цэнтрам агентаў Гестапо, растаўратараў капіталізма, лішні раз паказаў, што класавы вораг змяніў сваю тактыку барацьбы супроць партыі і ў шырокіх памерах прымяняе метад двурушніцтва. Таму ў штодзённай рабоце на любым участку мы павінны, не на словах, а на справе, узнімаць сваю большэвіцкую пільнасць.

Пастанова аб скажэннях некаторымі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі рашэнняў ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму новых членаў у партыю павінна быць цвёрда засвоена кожным комуністам.

Рагачоўская раённая партыйная арганізацыя, рыхтуючыся да новага прыёму ў партыю, дабіваецца рашучага палепшання ўсёй сваёй работы, ліквідацыі чуждых большэвіцкай партыі самасупакоенасці і зазнайства, якія яшчэ маюць у нас месца.

Райком партыі правёў ужо некаторыя арганізацыйныя мерапрыемствы для ўцягнення кожнага комуніста ў актыўнае партыйнае жыццё. У нашым раёне многія комуністы-адзіночкі, жывучы за 20—30 клм. ад раённага цэнтра, не працавалі над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, адставалі ў рабоце. Цяпер мы стварылі 7 новых пярвічных арганізацый і 3 кандыдацкія групы. Раней адстаючыя таварышы зараз значна выраслі, акуратна наведваюць партыйныя сходы, рэгулярна чытаюць газеты, праводзяць гутаркі ў калгасах (Чэвушаў—Мадорскі сельсовет, Шастакова— Дварэцкі сельсовет і інш.).

Партыйныя сходы ў большасці партарганізацый праводзяцца па загадзя зацверджаных планах. На сходах абмяркоўваюцца пытанні

партыйнага характару, індывідуальныя даклады, інфармацыі аб выкананні пастаноў папярэдніх сходаў. Усё гэта значна павысіла актыўнасць камуністаў. За апошні час такія «маўчальнікі», як Курмашоў—соўгас «Побалава», Ходак—Картфабрыка, Капелян—Леспрамгас, зараз дзелавіта выступаюць на партсходах.

Пярвічныя партарганізацыі больш уважліва падыходзяць да жывога чалавека, сур'ёзна адносяцца да размеркавання партыйных даручэнняў, сочаць за палітычным ростам комуністаў і палепшаннем іх сувязі з беспартыйнымі масамі.

Нам яшчэ не ўдалося арганізаваць доўгатэрміновыя курсы для парторгаў, але 2—3-дзенныя курсы з адрывам парторгаў ад работы праводзім сістэматычна. На курсах за апошнія 6 месяцаў распрацаваны наступныя тэмы: асноўныя пытанні партыйнага будаўніцтва, падрыхтоўка і правядзенне партсходаў, складанне плана работы пярвічнай партарганізацыі і кантроль выканання, кіраўніцтва комсамолам, нізавымі профсаюзнымі арганізацыямі і друкам, работа з кандыдатамі партыі і групамі спачуваючых, аб трацкісцка-зіноўеўскім тэрарыстычным цэнтры і т. д.

Перыядычна праводзяцца таксама інструкцыйныя нарады парторгаў.

Значная ўвага ўдзяляецца рабоце з вылучэнцамі. У час праверкі і абмену партыйных дакументаў вылучана на адказныя ўчасткі работы больш 25 чалавек, сярод іх—інструктары райкома, дырэктары МТС, упаўнаважаны ЦСПСБ і інш. На-жаль, не ўсе комуністы зразумелі палітычную важнасць работы з вылучэнцамі і не аказваюць ім патрэбнай дапамогі (Трускін—старшыня райсаюза і інш).

* * *

Райпартарганізацыя налічвае ў сваіх радах 66 кандыдатаў і 42 спачуваючых, зацверджаных бюро райкома. У спачуваючыя прыняты лепшыя людзі раёна—стаханаўцы прадпрыемстваў, соўгасаў і калгасаў: тав. Мінава—старшыня калгаса імя Гікало член ЦВК СССР, Цэлікаў—узнагароджаны ордэнам старшыня калгаса «Чырвоны гай» і інш. Усё гэта сведчыць аб уважлівым падыходзе да прыёму ў спачуваючыя. Аднак быў і такі факт, калі партарганізацыя МТС прыняла ў спачуваючыя сына былога буйнага лесапрамыслоўцы.

Для кандыдатаў партыі і спачуваючых арганізаваны 2 кандыдацкія школы ў горадзе і 3 куставыя ў раёне. Школы забяспечаны лепшымі прапагандыстамі. Адною з іх кіруе сакратар райкома партыі.

Спачуваючыя прымаюць удзел у адкрытых партсходах, выконваюць партыйныя даручэнні, праводзячы масавую работу, гутаркі, чыткі. Райком, аднак, выявіў факты няправільнага падыходу да размеркавання даручэнняў у партарганізацыях картфабрыкі імя Сталіна і соўгаса «Побалава». У гэтых-жа партарганізацыях выяўлены факты кампанейшчыны пры прыёме ў партыю. Так, агульны сход прыняў пастанову: «У мэтах паскарэння падрыхтоўкі да прыёму ў партыю арганізаваць для спачуваючых гурткі па вывучэнню статута партыі».

Аналагічны факт неразумення сутнасці пастановы ЦК ВКП(б) быў выяўлен на лесазаводзе імя Халтурына. Парторг тав. Вартлін вывесіў аб'яву аб тым, што 17 лістапада адбудзецца адкрыты партыйны сход, на якім стаіць пытанне аб прыёме ў партыю і запрашаюцца беспартыйныя.

Райком своечасова мабілізаваў увагу ўсёй партарганізацыі на недапушчальнасць паўтарэння падобных скажэнняў дырэктывы ЦК ВКП(б).

Гэтыя факты гавораць аб тым, што, не гледзячы на праведзеную работу, паасобныя комуністы не зразумелі партыйных дырэктыў і пастановы ЦК ВКП(б).

Наша задача,—улічыўшы памылкі паасобных партарганізацый, выхоўваць у комуністаў высокую большэвіцкую пільнасць, мабілізаваць увагу ўсёй партарганізацыі на недапушчэнне кампанейшчыны, парадн асці і шуміхі пры прыёме новых членаў і кандыдатаў партыі, забяспечыць выкананне статута аб прыёме ў партыю выключна ў індывідуальным парадку.

---

**Ф. Ганчароў**

**Культпроп Заслаўскага РК КП(б)Б**

# Павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў

Пры праверцы партыйных дакументаў у нашай партарганізацыі было выяўлена, што ідэйна-палітычны ўзровень значнай часткі комуністаў недастатковы.

Райком партыі зрабіў з гэтага практычныя вывады. Усе члены партыі, кандыдаты і спачуваючыя ахоплены партыйнай вучобай у цвёрда ўстаноўленыя дні. Па раёну працуе зараз 14 гурткоў гісторыі партыі, з якіх 2 павышанага тыпу, 3 кандыдацкія, 5 гурткоў спачуваючых. Завочнай партвучобай па гісторыі партыі ахоплена 11 чалавек, па палітэканоміі 8, па ленінізму 4.

Усе гурткі і школы забяспечаны добра падрыхтаванымі прапагандыстамі са стажам прапагандысцкай работы ад двух да 10 год. Усяго працуе 15 прапагандыстаў, з якіх 4 скончылі комвузы, 4—тэхнічныя інстытуты, 3—соўпартшколы і 4—курсы прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б. 50% усіх прапагандыстаў вучыцца завочна па павышанай праграме гісторыі партыі, астатнія—у гуртках у раённым цэнтры. Прапагандысты слухаюць сістэматычны курс радыёлекцый з Масквы і Менска.

Пры раённым парткабінеце два разы ў месяц праводзіцца семінар прапагандыстаў. У праграму заняткаў уведзены такія дысцыпліны, як геаграфія і мова. Акрамя семінараў, парткабінет наладжвае для прапагандыстаў як калектыўныя, так і індывідуальныя кансультацыі.

Райком партыі перыядычна заслухоўвае справаздачы прапагандыстаў аб тым, як яны рыхтуюцца да заняткаў, як засвойваюць пройдзены матар'ял і дае ўказанні ў далейшай рабоце. На апошнім сваім паседжанні райком паставіў справаздачу прапагандыста Шупені ў прысутнасці яго слухачоў, парторга соўгаса «Зара Захаду» і прапагандыстаў іншых гурткоў, чаго не практыкавалася ў 1935 годзе.

Пярвічныя партарганізацыі ў сваю чаргу заслухоўваюць справаздачы комуністаў аб іх рабоце над сабой. Парторгі перыядычна наведваюць гурткі і правяраюць ход заняткаў.

Сёлета ў нас не было перабояў у партвучобе, хоць некаторыя таварышы (Парфененка, Лядоўскі, Мішусцін) заяўлялі, што нельга вучыцца ў перыяд пасеўнай і уборачнай кампаній.

Зараз у нас няма такога комуніста, які не чытаў-бы газет і мастацкай літаратуры. Гурткамі чыткі мастацкай літаратуры ахоплена больш 600 чалавек комуністаў і беспартыйных.

У гэтым годзе асабліва шырока разгорнута работа радыёпартаўдыторый. За 4 месяцы больш 1.700 чал. праслухалі 102 лекцыі і даклады. Радыёлекцыі слухаюцца ў прысутнасці прапагандыста, які дае неабходныя тлумачэнні па ўзнікшых пытаннях. Прыкладнымі слухачамі радыёлекцый з'яўляюцца тт.: Неведнічэнка, Майсеенка, Кульша і інш.

Члены і сакратар райкома партыі перыядычна наведваюць і правяраюць заняткі гурткоў.

Вялікая ўвага ўдзяляецца выхаванню спачуваючых, якіх у нашым раёне больш 40 чалавек. Для іх арганізаваны 5 гурткоў па вывучэнню статута і праграмы партыі, а таксама пастаноў партыі і ўрада і паасобных артыкулаў.

Для павышэння тэарэтычнага ўзроўню комуністаў райком перыядычна праводзіць тэарэтычныя канферэнцыі раённага актыва. 15 жніўня праведзена канферэнцыя на тэму: «Новая Канстытуцыя СССР і ліквідацыя класаў». Да гэтай тэмы за два месяцы былі разасланы матар'ялы, спіс літаратуры, парткабінет наладзіў індывідуальную кансультацыю. Канферэнцыя прашла з выключным уздымам. Удзельнічала 53 чал., 6 таварышоў выступалі з дакладамі і больш 10 у спрэчках. Зараз рыхтуецца канферэнцыя на тэму: «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізма».

Пасля ўкамплектавання гурткоў частка комуністаў і кандыдатаў партыі (Ваўсей, Шынкевіч, Міжухін, Зубкоўская і інш.) была пераведзена ў агульнаадукацыйныя школы; у гурткі паніжанага тыпу па гісторыі партыі пераведзены тт. Кац, Песенка, Прэсман.

Побач з дасягненнямі мы маем яшчэ нямала недахопаў у партвучобе. Не ўсюды камплектаванне школ і гурткоў праведзена ў адпаведнасці з узроўнем слухачоў. На занятках прапагандысты не заўсёды ўвязваюць тэму з канкрэтнымі пытаннямі бягучай палітыкі, з мясцовым матар'ялам. Яшчэ не ўсе парткабінеты арганізуюць кваліфікаваныя кансультацыі прапагандыстам і слухачам, не ўсюды добра падабраны наглядныя дапаможнікі.

Да нашага раёна цалкам адносіцца рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі і абмену партдакументаў, дзе адзначана «усё яшчэ нізкая якасць работы школ, гурткоў, слабая пасляховасць слухачоў, адцягненасць, акадэмізм у выкладанні па гісторыі партыі і недастатковы тэарэтычны ўзровень прапагандысцкіх кадраў».

Барацьба за высокую якасць партыйнай вучобы, кваліфікаваная дапамога прапагандыстам, слухачам, і асабліва адстаючым, павінна быць зараз у цэнтры нашай увагі.

**А. Казіміраў**

**Інструктар Крычаўскага РК КП(б)Б**

# Па шляху самацёку

Падводзячы вынікі абмену партдакументаў, пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, што партыйныя арганізацыі яшчэ нездавальняюча вядуць работу па ўцягненню ў групы спачуваючых правераных людзей з беспартыйнага актыва, не на належнай вышыні знаходзіцца выхаванне і ўцягненне спачуваючых у штодзенную работу партарганізацый.

Недахопы кіраўніцтва спачуваючымі, уцягнення лепшых людзей прадпрыемстваў, калгасаў і соўгасаў у групы спачуваючых прызнавала не раз і бюро Крычаўскага райкома партыі, выносячы адпаведныя пастановы.

Як-жа пасля ўсяго гэтага райпартарганізацыя выканала дырэктывы пленума ЦК ВКП(б)?

У раёне налічваецца 83 спачуваючыя і 66 кандыдатаў партыі. За рэдкім выключэннем (партыйны камітэт Цэментнага завода), сістэматычнай работы са спачуваючымі не праводзіцца. Большасць спачуваючых не мае грамадскай нагрузкі, не ўцягнута ў партыйную работу, не наведвае адкрытых партыйных сходаў. Партдаручэнні не правяраюцца, справаздачы спачуваючых заслухоўваюцца рэдка.

Кашанская партарганізацыя два месяцы таму назад прыняла ў спачуваючыя 3 сваіх лепшых правераных людзей. Выкліканыя на бюро таварышы Осіпенка Н., Паўлюкоў А. і Ульянаў не маглі адказаць на элементарныя пытанні праграмы і статута партыі, бо парторг Тупіцын не ўдзяліў часу для падрыхтоўкі спачуваючых. Работа са спачуваючымі не палепшылася і пасля зацверджання іх на бюро. Спачуваючыя не працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, не маюць партыйных даручэнняў, не робяць справаздач на адкрытых партыйных сходах.

Кашанская партарганізацыя не здолела арганізаваць работу і з кандыдатамі партыі. Тт. Мяшкоў, Салаўёў, Барысаў ніколі не рыхтуюцца да заняткаў, нічога не ведаюць аб падзеях у Іспаніі. Салаўёў і Мяшкоў дрэнна працуюць і як старшыні калгасаў, не вядуць масавай работы з калгаснікамі, не выконваюць партыйных нагрузак, займаюцца п'янкай. У гэтай арганізацыі толькі адзін кандыдат партыі—старшыня калгаса імя Карла Маркса тав. Качанаў Ніканор—старанна працуе над сабой. Як добры гаспадар, ён дабіўся таго, што яго калгас з'яўляецца самым перадавым у раёне і на працягу двух год трымае пераходны чырвоны сцяг РК КП(б)Б.

Паланіцкая партарганізацыя, прыняўшы ў спачуваючыя яшчэ ў ліпені гэтага года 4 сваіх лепшых правераных людзей, палічыла сваю місію на гэтым закончанай. Парторг тав. Кавалёў і прымацаваны тав. Шаўцоў ніякай работы са спачуваючымі не праводзяць. Спачуваючыя за тры з паловай месяцы нісколькі не выраслі. Партарганізацыя не паклапацілася нават паставіць перад райкомам пытанне аб зацверджанні спачуваючых.

Не лепш працуюць са спачуваючымі і партарганізацыі Касцюшкоўская, Фасфарытнага завода, Эмануільскага і Задабрасцянскага спіртзаводаў, Сожбуда, крычаўскага дэпо, дыстанцыі, МТС.

Партарганізацыі Зарубецкага і Маляцінскага сельсаветаў не прынялі ў спачуваючыя ні аднаго чалавека.

На прадпрыемствах Крычава і раёна працуе больш 5.000 рабочых, сярод якіх сотні стаханаўцаў. Не мала стаханаўцаў, ударнікаў працуе ў калгасах, соўгасах, даючы рэкордныя паказчыкі работы. Здавалася-б парторгі, сакратары парткомаў павінны ведаць гэтых людзей, сістэматычна працаваць з імі, як з найлепшым рэзервам папаўнення радоў партыі, уцягваць іх у групы спачуваючых. Але большасць нашых партарганізацый мала гэтым цікавіцца.

На Фасфарытным заводзе з 56 стаханаўцаў толькі двое спачуваючых. На Крычаўскім чыгуначным вузле—больш 600 стаханаўцаў і ўдарнікаў, а спачуваючых толькі 19 чалавек.

Партыйная арганізацыя Эмануільскага спіртзавода прыняла двух спачуваючых без рэкамендацый, чым груба парушыла статут партыі. Толькі на сходзе парторг Чарняк пачаў выпраўляць сваю памылку. Аднак з дзесятка знатных людзей, якія забяспечылі першынства завода па Спіртатрэсту, ні адзін не быў прыняты ў спачуваючыя. Партарганізацыя нарыхтоўшчыкаў прыняла ў спачуваючыя аднаго таварыша, не праверыўшы яго соцыяльнага паходжання, і райком партыі яго не зацвердзіў.

Работа з кандыдатамі таксама ідзе нездавальняюча.

Кандыдат партыі тав. Шапчанка, які паўтара гады правучыўся ў магілеўскай соўпартшколе, не пашырае сваіх ведаў і амаль зусім не працуе над сабой. Ён не ведае нават, што Мадрыд—сталіца Іспаніі.

Кандыдат партыі тав. Пракапенка рэдка наведвае партыйную школу, не чытае газет. Не дзіўна, што ён нічога не ведае па гісторыі партыі.

Кандыдат партыі тав. Самсонаў нават газет не чытае.

Такіх кандыдатаў у раёне не мала, і ўсе яны пакінуты на самих сябе.

За апошнія тры месяцы райком партыі часта пасылаў раённы партыйны актыў у калгасы, соўгасы, сельсоветы, на розныя гаспадарча-палітычныя кампаніі, але ні разу не даручыў ім партыйна-арганізацыйнай і палітвыхаваўчай работы сярод комуністаў нізавых партарганізацый.

Райком павінен выправіць свае недахопы ў гэтай важнейшай справе.

**А Карачевіч**

**Нам. старшыні прэзідыума Белкаапсаюза**

# За сапраўдны культурны гандаль на вёсцы

Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў прыняў гістарычную хартыю правоў і вольнасцей перамогшага шчаслівага свабоднага народу, наскрозь прасякнутую ідэямі сапраўды социялістычнага дэмакратызма. З трыбуны З'езда наш вялікі і мудры правадыр таварыш Сталін зрабіў свой выдатны даклад аб новай Канстытуцыі. Словы вялікага настаўніка працоўных усяго свету з захапленнем, любоўю і ўвагай слухала ўся наша краіна. Таварыш Сталін прадэманстраваў перад усім светам буйнейшыя перамогі, дасягнутыя совецкім народам за апошнія 12 год на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. СССР стаў краінай соцыялізма. Назаўсёды знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. Капіталістычныя элементы ліквідаваны ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у тым ліку і ў сістэме гандлю і тавараабароту.

У 1924 годзе, як сказаў таварыш Сталін у сваім дакладзе:

> «... Соцыялістычны сектар у тавараабароце складаў якіх-небудзь 50—60 проц.,—не больш, а ўсё астатняе поле было занята купцамі, спекулянтамі і іншымі прыватнікамі.
>
> Такава была карціна нашай эканомікі ў 1924 годзе.
>
> Што мы маем цяпер, у 1936 годзе?
>
> ... Што датычыць тавараабароту ў краіне, то купцы і спекулянты выгнаны зусім з гэтай галіны. Увесь тавараабарот знаходзіцца цяпер у руках дзяржавы, каапераціі і калгасаў. Нарадзіўся і развіўся новы, совецкі гандаль, гандаль без спекулянтаў, гандаль без капіталістаў».

Вялікую радасць і гордасць у нашых сэрцах выклікаюць гэтыя словы і разам з тым абавязваюць нас яшчэ больш упарта працаваць над развіццём совецкага культурнага гандлю, над разгортваннем тавараабароту, каб спажывецкая кааперацыя, якая стала адзінай гандлёвай сістэмай у многамільённай калгаснай вёсцы, гандлявала сапраўды культурна.

Мудрыя словы любімага правадыра выклікаюць у кожнага з каапэрацыйных работнікаў жаданне ўзняць совецкі гандаль на такую вышыню, каб пакупнік-калгаснік адчуваў, што кааперацыя праяўляе да яго сапраўды сталінскія клопаты. На даклад таварыша Сталіна мы павінны адказаць новымі поспехамі ў гандлі. Для гэтага мы маем

усе магчымасці. Тавараў у нас выстарчае, каб задаволіць узросшыя патрабаванні калгаснікаў, насыціць магазіны і крамы багаццем прадметаў шырокага спажывання. Патрэбна толькі чоткае апэратыўнае кіраўніцтва Белкаапсаюза і акррайсаюза нізавой каапэрацыйнай сеткай, цесная сувязь з масамі, веданне іх запатрабаванняў і ўкараненне стаханаўскіх метадаў работы.

Цэнтральны Камітэт партыі і Соўнарком Саюза ССР стварылі ўсе неабходныя ўмовы для росквіту каапэрацыйнай гаспадаркі. Сталінскія клопаты аб палепшанні жыцця калгаснай вёскі сталі новаю вехай на шляху развіцця спажывецкай каапэрацыі.

СССР становіцца краінай таварнага багацця. Мудрая сталінская палітыка з кожным днём павялічвае дабрабыт краіны, робіць кожнага грамадзяніна ўсё больш заможным, дае яму магчымасць лепш харчавацца, прыгажэй апранацца, радасней жыць.

Пасля рашэння СНК СССР і ЦК ВКП(б), прынятага па ініцыятыве таварыша Сталіна, работа спажывецкай каапэрацыі значна палепшылася, што садзейнічала росту тавараабароту.

За ўвесь 1934 год спажывецкая каапэрацыя БССР прадала ў вёсцы тавараў на 331,7 мільёна руб., а за 11 месяцаў 1936 года—на 662 млн. руб. За IV квартал 1935 года і тры кварталы 1936 года ў парадку атаварвання хлебазакупак прадана 400 аўтамашын, 5.200 веласіпедаў, 500 патэфонаў.

Значна ўзрос попыт калгаснай вёскі на цукар, кандзіцерскія вырабы, муку вышэйшых гатункаў, культтавары і іншую прадукцыю прамысловасці. Продаж кандзіцерскіх вырабаў за 9 месяцаў 1936 года ў параўнанні з 1935 г. павялічыўся на 53 проц., цукру—на 126 проц., мыла гаспадарчага—на 45 проц., а культтавараў—амаль у 2 разы.

Рост заможнага жыцця калгаснай вёскі выклікаў павышаны попыт на печаны хлеб і бела-булачныя вырабы. Безупынна расце абарот ад продажу хлеба-булачных вырабаў. За ўвесь 1935 год хлеба-булачных прадуктаў было прадана на 71,7 млн. руб., а за тры кварталы 1936 года—на 127,4 млн. руб. У 1935 годзе сельскія пякарні зусім не выпякалі бела-булачных вырабаў. За 9 месяцаў 1936 года бела-булачных вырабаў прадана каля 2.000 тон.

У 1936 годзе адкрыта каля 150 новых сельмагаў па гандлю таварамі складанага асартыменту (абуткам, мануфактурай, гатовым адзеннем, трыкатажам). Значна вырас абарот і спецыялізаванай рознічнай сеткі. За 9 месяцаў 1935 года ёю было прадана тавараў на 46,1 млн. руб., а за 9 месяцаў 1936 года—на 101,1 млн. руб.

Аднак дасягнутыя тэмпы развіцця каапэрацыйнага абароту далёка не здавальняюць попыту калгаснай вёскі. Спажывецкая каапэрацыя БССР яшчэ не забяспечыла рашаючага зруху ў разгортванні тавараабароту і культурнага абслугоўвання спажыўца.

Соўнарком і ЦК ВКП(б) аб рабоце каапэрацыі на вёсцы адзначылі:

> «Сетка сельпо і сельскіх крам надта раздроблена, паступаючыя на вёску такія промтавары, як адзенне, абутак, мануфактура і іншыя распыляюцца па дробных, непрыстасаваных крамах, якія не могуць мець неабходнага асартыменту для выбару спажыўца. Разам з тым ва многіх сельскіх крамах адсутнічае соль, мыла, цукар, табак і іншыя тавары штодзённага ўжытку. Многія крамы сельпо існуюць толькі на паперы, фактычна не праводзяць гандлёвых аперацый.
>
> Наяўнасць вялікіх растрат і раскрадванняў і стратнасць ра-

боты многіх сельпо падрывае фінансавае становішча сельскіх кааператываў, якія з прычыны гэтага не могуць рэгулярна купляць і дастаўляць на вёску тавары.

Мае месца вялікая цякучасць кадраў, масавыя парушэнні выбарнасці кіруючых органаў сельпо, зусім недастатковы ўдзел пайшчыкаў у вырашэнні асноўных пытанняў работы сельпо».

Спажывецкая кааперацыя БССР і да гэтага часу цалкам не ліквідавала адзначаныя ў гэтай пастанове буйнейшыя недахопы.

Аптовыя базы і склады многіх райсаюзаў перанасычаны таварамі шырокага спажывання, тым часам як ва многіх крамах сельпо не бывае самых неабходных тавараў.

У крамах Шацкага сельпо, Смілавіцкага раёна, часта няма солі, газы, цукру, мукі і т. п. Парушаецца абавязковы асартымент тавараў і ў крамах пярэжырскага сельпо таго-ж раёна.

На сістэматычную адсутнасць газы ў крамах мсціслаўскага гарпо скардзяцца спажыўцы. Старшыня праўлення гарпо тав. Чарняк лічыць невыгадным займацца продажам газы. Ігнаруючы элементарныя запатрабаванні спажыўца, ён у лістападзе выбраў толькі 0,8 тоны газы замест 11 тон па нараду. Няма газы і ў вясковых крамах. Калгаснікам прыходзіцца за адным літрам газы хадзіць у горад Мсціслаў і часта варочацца з пустымі рукамі.

У Янаўскай краме, Свяцілавіцкага раёна, ужо другі месяц няма солі, і калгаснікі вымушаны ездзіць за соллю ў Ветку.

Балашэвіцкая крама, скрыгалаўскага сельпо, Петрыкаўскага раёна, часта бывае на замку, бо крамнік Пікуза разгульвае па вёсцы. У краме—пустыя паліцы, няма ні солі, ні цукру. Праўленне скрыгалаўскага сельпо лёгка з гэтым прымірылася.

Скардзяцца пайшчыкі і на тое, што ў крамах сельпо не бывае неабходных вучням школьных прылад.

У руднянскай і аленаўскай крамах, Кармянскага раёна, пісьмовыя прылады—вялікая рэдкасць. Калі-б вучні ні зашлі за пер'ямі, сшыткамі, ім заўсёды адказваюць:—«Няма».

Кармянскія кааператары, на жаль, не выключэнне. Няма вучнёўскіх прылад і ў крамах вымнянскага сельпо, Суражскага раёна, і многіх іншых. Праўленні сельпо лічаць гэта нармальнаю з'явай.

Як бачым, у крамах сельпо няма нават такіх тавараў, якімі часта завалены аптовыя склады. Пры такой, з дазволу кажучы, «сістэме» гандлю няма нічога дзіўнага, што многія райсаюзы не выконваюць плана рознічнага тавараабароту, зрываюць забяспечанне пайшчыкаў, дапускаюць замарожванне і асяданне тавараў на складах. Гэта—рэзультат яўна бюракратычных метадаў работы, адрыву ад мас, няведання, чым жыве крама, як абслугоўвае пайшчыкаў.

Толькі з-за дрэннага развароту гандлю не рэалізавана ў радзе раёнаў за тры кварталы на 18 млн. руб. дастатковых тавараў. На базах і складах стварыліся звышнармальныя запасы на суму больш 32 млн. руб., асабліва цукру, гаспадарчага мыла і махоркі.

Ва многіх крамах яшчэ пануе антысанітарыя, парушаецца савецкая палітыка цэн, абважваецца і аблічваецца спажывец. Хіба пайшчыкі могуць быць задаволены ветуніцкай крамай, Бягомельскага раёна, калі там падлога заўсёды брудная, на вокнах пыл, грызуны псуюць хлеб.

У радзе крам Кіраўскага раёна сыравіна хаваецца разам з пшанічнай мукою, а цукар—пад прылаўкам.

З праверэных прэзідыумам Белкаапсаюза 30 раёнаў, толькі ў адным не выяўлена фактаў парушэння совецкай палітыкі цэн. У сельпо Чаўскага раёна грэбні і зубныя шчоткі прадаваліся з накідкай у 32 проц. замест 11,3 проц. Раймаг прадаваў мэблю з накідкай у 25 проц. замест 20 проц. Грубыя парушэнні выяўлены таксама ў самахвалавіцкім сельпо Менскага раёна.

Спецыялізаваная рознічная сетка за 9 месяцаў 1936 года дрэнна выканала гадавы план тавараабароту: сельмагі—на 59,7 проц., раймагі—на 65,4 проц., культмагі—на 70,8 проц. Вінаваты ў гэтым перш за ўсё міжрайбазы Белкаапсаюза. Слаба звязаныя з сельмагамі, яны не клапоцяцца аб тым, каб забяспечыць іх неабходным асартыментам тавараў, бо лічаць, што гэта—справа толькі аптовых баз окррайсаюзаў.

Культурнае абслугоўванне спажыўца зрываецца таксама з-за дрэннага падбору работнікаў. У новы сельмаг вёскі Бортнікі міхалеўскага сельпо, Бабруйскага раёна, прабраліся на работу прахадзімцы і жулікі. Тавары для міхалеўскага сельпо рэдка калі траплялі па прызначэнню. Больш дэфіцытныя рэалізаваліся на базе, па дарозе ў Бортнікі. З атрыманых на базе райсаюза 600 пар галош дырэктар сельмага Брагер даставіў на месца толькі 20 пар. І гэта не першы выпадак. Лепшыя стаханаўкі калгаса «Чырвоны партызан» заказалі сельмагу даставіць ім патрэбны тавар на дом. Работнікі сельмага гэту просьбу адхілілі. Вось да чаго даводзіць несур'ёзны падыход да ўкамплектавання кадрамі гандлёвых прадпрыемстваў.

Большасць старшынь окррайспажыўсаюзаў і сельпо не кіруюць канкрэтна кожным гандлёвым прадпрыемствам, тавараабарот разгортваецца самацёкам. У III квартале 32 райсаюзы не выканалі агульнага плана тавараабароту. Сярод іх—Бярэзінскі, які выканаў план на 87 проц., Кармянскі—на 82 проц., Лагойскі—на 78 проц., Пярыцкі—на 88 проц., Суражскі—на 84 проц., і т. д.

Адстаюць яны і ў IV квартале. Як відаць, кіраўнікі гэтых і раду іншых райсаюзаў кіруюць канцэлярска-бюракратычным метадам.

Нашы сельскія каапэратывы і окррайспажыўсаюзы маглі-б многа зрабіць для развіцця мясцовай прамысловасці, уздзейнічаць на пашырэнне вытворчасці і палепшанне якасці тавараў. Амаль у кожным раёне можна было-б арганізаваць гандаль і выпрацоўку малочна-мясных прадуктаў—каўбасы, мяса, сала, малака, масла. Тым часам нават продмагі слаба гандлююць гэтымі таварамі. Асноўная хвароба ў тым, што акруговы і раённы аптовы гандаль у асноўным базуецца на рэгулюемых і занараджаных продтаварах і не праяўляе сваёй ініцыятывы на месцах.

Сістэма спажывецкай каапэрацыі БССР яшчэ не перабудавала сваю работу ў адпаведнасці з пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР, не забяспечыла бальшэвіцкага развароту каапэрацыйнага гандлю на вёсцы і ва многіх сваіх звеннях працягвае працаваць па-старынцы. У гэтым вінаваты райсаюзы, окрсаюзы і Белкаапсаюз, якія не забяспечылі апэратыўнага кіраўніцтва, кантролю і праверкі работы нізавой сеткі. Партыйныя і совецкія арганізацыі на месцах слаба рэагуюць на дрэнную работу сельпо і райсаюзаў, якія не задавальняюць попыту шырокіх мас калгаснай вёскі на неабходныя тавары і прадукты, асабліва дастатковыя, што прывяло да зрыву спажыўкаапэрацыяй плана тавараабароту.

У далейшым Белкаапсаюз і яго філіялы павінны ўзмацніць кіраў-

ніцтва і кантроль за работай сельпо і кожнай крамы, каб дабіцца рашучага пералому ў рабоце ўсёй нізавой сеткі спажыўкааперацыі.

Уменне дастаць патрэбны тавар і хутка, без валакіты, прасунуць яго да спажыўца ў самыя далёкія куткі краіны—неабходная ўмова разгортвання тавараабароту. Для спажывецкай кааперацыі БССР тут яшчэ непачаты край работы.

Арганізаванае ўздзеянне гандлю на прамысловасць—першы прызнак культурнага гандлю. Як багата ні выглядаў-бы магазін звонку, але калі ён не мае сталага асартыменту тавараў, не ведае сёння, чым будзе гандляваць заўтра, то яго нельга назваць культурным. Культура савецкага гандлёвага прадпрыемства не павінна быць нечым паказным. Культура гандлю—гэта такі строй работы, калі ўсе працэсы прыстасаваны да патрэб і густу пакупніка. Брак і бракаробы—тормаз культуры савецкага гандлю. Барацьба з імі пачынаецца ад моманту прыёмкі заказу і канчаецца ўручэннем тавара пакупніку.

Вялікае значэнне мае дробна-рознічны гандаль. Гэты від гандлю дапаўняе тавараабарот, дапамагае калгасніку без лішняй траты часу купляць тавары штодзеннага попыту.

Пры рэарганізацыі шляхоў таварапрасоўвання мала ўвагі ўдзелена было ўмацненню райсаюзаў гандлёвымі кадрамі. Загадчыкі гандлёвых аддзелаў у лепшым выпадку выконваюць функцыі экспедытараў, з чым добра спраўляліся-б і гандлёвыя агенты. Яны не наведваюць крам, не правяраюць забяспечанасць іх таварамі, не сочаць за правільным хаваннем тавараў, не вядуць барацьбы з бракам. Загадчыкі гандлёвых аддзелаў Заслаўскага, Халопеніцкага і інш. райсаюзаў рэдка бываюць на сваіх аптовых складах, адарваны ад прадпрыемстваў, дзе вырашаюцца задачы разгортвання тавараабароту. Урэшце тавар не дастаўляецца ў патрэбнай спажыўцу колькасці, пастаўшчыкі не выконваюць сваіх дагавароў, а крамы—дырэктыў партыі і ўрада аб разгортванні культурнага савецкага гандлю.

21 чэрвеня 1936 года на прыёме работнікаў спажывецкай кааперацыі ў Крэмлі тав. Молатаў указаў:

«Галоўнае зараз у тым, каб даць калгаснікам і калгасніцам больш тавараў патрэбнага асартыменту і добрай якасці, на справе дабіцца культурнага гандлю, якога ў нас яшчэ ва многіх выпадках няма... Падцягнуць увесь фронт гандлю, які з'яўляецца пакуль адстаючай часткай нашай гаспадаркі».

Указанні таварыша Молатава павінны быць пакладзены ў аснову далейшай работы ўсіх кааперацыйных арганізацый спажыўсістэмы БССР.

* * *

Новы закон урада аб парадку крэдытавання тавараабароту ствярае ўсе магчымасці для максімальнага яго разгортвання і разам з тым патрабуе ўстанаўлення найстражэйшай фінансавай дысцыпліны, чоткага і аперацыйнага кіраўніцтва фінансавай гаспадаркай.

У выніку правядзення ў жыццё пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) знішчаны прычыны дэфіцытнасці гандлю спажывецкай кааперацыі і створаны неабходныя ўмовы для яе фінансавага ўмацавання.

Бічом спажывецкай кааперацыі ўсё яшчэ застаюцца растраты і раскрадванні. Фінансавую гаспадарку спажыўкааперацыі падрываюць прымірэнчыя адносіны да растратчыкаў. Рад работнікаў горацкага, віцебскага, дзяржынскага, буда-кашалёўскага, уваравіцкага, ле-

пельскага, райсаюзаў ліберальна падыходзяць да праверкі людзей, якім давяраецца кааперацыйная маемасць.

Гэтым работнікам трэба напомніць словы таварыша Сталіна:

«Дапускаць зладзейства і раскрадванне грамадскай уласнасці,—усёроўна ці то ідзе справа аб уласнасці дзяржаўнай ці аб уласнасці кааперацыйнай і калгаснай,—і праходзіць міма падобных контррэволюцыйных бясчынстваў,—значыць садзейнічаць падрыву совецкага ладу, які апіраецца на грамадскую ўласнасць, як на сваю базу» *).

Многія кааперацыйныя работнікі скардзяцца на тое, што ў іх няма сродкаў, каб прывесці крамы ў культурны выгляд. Але разам з тым яны не вядуць барацьбы з растратамі і раскрадваннем, якія значна перавышаюць капіталаўкладанні на будаўніцтва. У 1934 годзе растрачана 4,4 млн. руб., а спагнана толькі 1,5 млн. руб. і 1,1 млн. руб. спісана. Па плану-ж капіталаўкладанняў на 1934 год было вылучана 1 млн. руб. У 1935 годзе спісана растрат на 1,5 млн. руб., а капіталаўкладанняў на будаўніцтва і рэканструкцыю гандлёвай сеткі адпушчана 1,2 тыс. руб. Прахадзімцы і жулікі раскрадваюць значныя сумы, што падрывае фінансавую гаспадарку спажыўкааперацыі.

Да растратчыкаў кааперацыйных сродкаў і маемасці павінны прымяняцца самыя жорсткія меры, прадугледжаныя совецкім законам. У сістэме спажыўкааперацыі не можа быць месца растратчыкам, жулікам і прахадзімцам. Кожнае сельпо, райсаюз, окрсаюз і Белкаапсаюз павінны поўнасцю і назаўсёды ліквідаваць растраты ва ўсёй сістэме спажыўкааперацыі нашай рэспублікі.

Нельга забываць і пра тое, што слабую ахову кааперацыйнай уласнасці могуць выкарыстаць не толькі простыя жулікі і зладзеі, але і контррэволюцыйныя элементы. Працэс над трацкісцка-зіноўеўскай фашысцкай бандай паказаў, што контррэволюцыйныя элементы не спыняюцца ні перад якімі крымінальнымі справамі, абы толькі пашкодзіць дзяржаве, скарыстаць дзяржаўныя, кааперацыйныя і грамадскія сродкі для фінансавання сваёй падрыўной работы. Кааперацыйныя арганізацыі павінны максімальна павысіць сваю пільнасць і павесці самую жорсткую, энергічную і непрымірымую барацьбу за ахову кааперацыйнай уласнасці ад зладзеяў, жулікаў і контррэволюцыянераў. У гандлюючы апарат неабходна ўважліва падбіраць людзей, якія карыстаюцца давер'ем пайшчыкаў і праверана на рабоце, устанавіўшы за іх дзейнасцю сістэматычны кантроль.

Барацьба за культурны гандаль азначае далейшае пашырэнне стаханаўскага руху, выхаванне ў кожным прадаўцу беражлівых адносін да тавараў, як да маемасці соцыялістычнай дзяржавы.

У артыкуле 131 Сталінскай Канстытуцыі чотка сказана:

«Кожны грамадзянін СССР абавязан берагчы і ўмацоўваць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, як свяшчэнную і недатыкальную аснову совецкага ладу, як крыніцу багацця і магутнасці радзімы, як крыніцу заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных».

Навучыць кожнага гандлёвага работніка, як выконваць гэта запатрабаванне Сталінскай Канстытуцыі ў канкрэтных умовах магазіна, выхаваць у ім усведамленне свяшчэннасці і недатыкальнасці соцы-

*) „Пытанні ленінізма", вып. X, стар. 503.

ялістычнай уласнасці—важнейшая задача Белкаапсаюза, окрсаюзаў, райсаюзаў, сельпо і разам з тым неабходная ўмова барацьбы за сапраўды культурны совецкі гандаль, за далейшы ўздым стаханаўскага руху сярод кааперацыйных работнікаў.

Важнейшая задача ў галіне фінансавай гаспадаркі—устанавіць найстражэйшую фінансавую дысцыпліну і спагнаць дэбіторскую запазычанасць. Новыя формы крэдытавання тавараабароту не могуць цярпець расхлябанасці, якая існуе яшчэ ў радзе кааперацыйных арганізацый. На працягу 3 кварталу дэбіторская запазычанасць не знізілася, а вырасла прыкладна на 4 млн. руб. Так працаваць далей нельга. Кожная крама і магазін абавязаны распрацаваць і шырока абмеркаваць на сходах пайшчыкаў канкрэтныя мерапрыемствы для ліквідацыі буйнейшых недахопаў і палепшання ўсей работы спажывецкай кааперацыі.

Праведзеныя перад пайшчыкамі справаздачы аб рабоце за 3 квартал паказалі, што кіраўнікі аршанскага, буда-кашалёўскага, дрыбінскага, плешчаніцкага і іншых райсаюзаў не зразумелі новых патрабаванняў дэмакратызма, якія выцякаюць з прынцыпаў, указаных у Сталінскай Канстытуцыі. Гэта сведчыць аб адсталасці ідэйна-палітычнага ўзроўню кіруючых работнікаў кааперацыі.

Каб падняць работу спажывецкай кааперацыі на вышэйшую ступень, трэба перш за ўсё падняць ідэйна-палітычны ўзровень і кваліфікацыю кааперацыйнага работніка, шырэй разгарнуць соцспаборніцтва і стаханаўскі рух, вопыт перадавікоў-стаханаўцаў і выдатнікаў зрабіць набыткам усёй масы работнікаў спажывецкай кааперацыі.

1937 год павінен з'явіцца годам рашаючага пералому ва ўсёй рабоце спажывецкай кааперацыі БССР; годам скарыстання ўсіх багацейшых магчымасцей разгортвання тавараабароту; годам высокага ўздыму культуры совецкага гандлю на вёсцы, далейшага разгортвання сеткі раймагаў, продмагаў, сельмагаў, дзетмагаў, палепшання тэхнічнага становішча крам і набліжэння іх да ўзроўню сельскіх унівэрмагаў; годамператварэння аптовага раённага звяна ў асноўную крыніцу снабжэння сельпо і іх крам поўным асартыментам тавараў і арганізацыі бесперабойнага гандлю дастатковымі товарамі; годам узмацнення фінансавай гаспадаркі спажыўсістэмы, поўнай ліквідацыі растрат і раскрадвання кааперацыйнай маемасці і ліквідацыі дэбіторскай запазычанасці.

Справа гонару кааперацыйных работнікаў БССР—аўладаць сталінскімі метадамі работы, паскорыць тэмпы тавараабароту паміж горадам і вёскай.

Соцыялістычнае спаборніцтва паміж усімі звеннямі сістэмы за большэвіцкае выкананне і перавыкананне плана тавараабароту і нарыхтовак 1937 года выведзе спажыўкааперацыю ў рады перадавых галін народнай гаспадаркі ордэнаноснай БССР.

Няма сумнення ў тым, што пры той увазе, якую ўдзяляюць спажывецкай кааперацыі ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало, кааперацыйныя работнікі спажыўсістэмы БССР вырашаць задачу арганізацыі культурнага совецкага гандлю, адпавядаючага сучаснай эпосе.

**П. Лабатарын**

**Кантралёр КПК БССР**

# Палепшыць совецкі гандаль прадуктамі спажывання

Выпуск тавараў і прадуктаў шырокага спажывання ўсё больш і больш павялічваецца і патрабуе ад гандлюючых арганізацый добра наладжанай работы сеткі крам і магазінаў, каб своечасова, поўнасцю і без перабояў задаволіць узрастаючы попыт совецкага спажыўца. Трэба памятаць указанне таварыша Сталіна, што сетка Дзяржгандля, спажывецкай кааперацыі і іншых гандлюючых арганізацый з'яўляецца тым каналам, праз які тавары і прадукты павінны даходзіць ад прамысловасці да спажыўца.

У дакладзе на XVII з'ездзе партыі, ацэньваючы ролю і значэнне совецкага гандлю ў арганізацыі тавараабароту і далейшым росце таварнай прадукцыі, таварыш Сталін адзначыў, што «разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца наперад».

За апошнія гады ў горадзе і вёсцы значна ўзрасла і пашыралася сетка крам і магазінаў. Адкрыты спецыялізаваныя, культурна абсталяваныя магазіны. Для далейшага палепшання совецкага гандлю ЦК ВКП(б) і СНК СССР прынялі ў мінулым годзе пастанову аб размежаванні работы паміж Дзяржгандлем і спажывецкай кааперацыяй.

Партыя і ўрд стварылі ўсе ўмовы для бесперабойнага і культурнага абслугоўвання спажыўцоў нашай краіны. Здавалася-б, што работа гандлюючай сеткі Менска, як сталіцы БССР, павінна была служыць прыкладам для іншых гарадоў і раёнаў рэспублікі. На-жаль, гэтага сказаць яшчэ нельга. Праверкай гандлёвай сеткі па продажу харчовых тавараў у Менску ўстаноўлены факты грубага парушэння прынцыпаў совецкага свабоднага гандлю.

Зараз праходзіць спаборніцтва магазінаў чатырох совецкіх сталіц, у тым ліку і Менска, якое павінна палепшыць работу ўсіх гандлюючых арганізацый нашай рэспублікі. Аднак работнікі многіх магазінаў яшчэ слаба ўключыліся ў спаборніцтва і стаханаўскі рух. У 39 магазінах з 90 правераных зусім няма стаханаўцаў, а 36 магазінаў, працуючы па-старынцы, ні з кім не спаборнічаюць.

З месяца ў месяц не выконваюць плана тавараабароту тыя магазіны, дзе няма стаханаўцаў і соцспаборніцтва. Работнікі гэтых магазінаў спасылаюцца на адсутнасць тавараў—прычыну зусім неабгрунтаваную, бо тавараў дастатковая колькасць. Падобныя разважанні з'яўляюцца проста манеўрам для прыкрыцця бяздзейнасці і непаваротлівасці.

У радзе магазінаў сталіцы наглядаюцца грубыя адносіны, абважванне і аблічванне пакупніка, антысанітарыя (брудныя халаты), дрэнная якасць тавараў, а галоўнае—слабое рэагаванне на ўсё гэта Горунутргандля ў асобе тав. Саф'яна і фармальныя адносіны ўпаўнаважанага Дзяржгандальінспекцыі тав. Левіна.

Хлебныя магазіны не маюць поўнага асартыменту тавараў. Так, у дзень абследвання прадстаўніком упаўнаважанага КПК у магазінах №№ 79, 111, 109, 112, 168, 143, 147, 103, 48, 27, 7, 87, 25, 107 не было хлеба: аржанога з мукі 95%, аржанога петляванага 65%, аржанога 80%, пшанічнага 85%, 75% і 30%, а таксама пранікаў, баранкаў, булак розных гатункаў і т. п.

Значна горш наладжан завоз хлеба на акраіны горада і ў рабочыя пасёлкі. У магазіне № 75 Менгорхарчгандля (Тучынка—цагельны завод № 1—3) наглядаюцца сістэматычныя перабоі ў дастаўцы хлеба. 13 лістапада ў магазін не прывезлі чорнага хлеба, а 14 прывезлі толькі 220 кг, што зусім не здавальняе патрэбы спажыўцоў гэтага раёна. 15 і 16 лістапада ніякага хлеба ў магазіне не было. Рабочыя цагельнага завода прымушаны ездзіць за хлебам у горад (адлегласць да трамвая 1½—2 клм.), немэтазгодна траціць час, а іншы раз рабіць нават прагулы.

У гэтым-жа магазіне няма таксама аўсянай крупы, рыбных кансерваў, вермішэлю, папірос сярэдняга і ніжэйшага гатункаў.

5 лістапада магазін «наведалі» нам. заг. Горунутргандля тав. Хентаў і з-Менхарчгандля тав. Войцікаў. Яны абяцалі ліквідаваць недахопы, але іх словы засталіся пустым гукам.

Заг. Горунутргандля тав. Саф'ян тлумачыць: «Увосень мокрае надвор'е, на акраінах брудна, дый аўтамашыны для развозкі хлеба стаяць без шын». Такімі разважаннямі Горунутргандаль у асобе тав. Саф'яна прыкрывае бяздзейнасць гандлюючых арганізацый.

У магазіне № 133 з-за непаваротлівасці работнікаў прылаўка ствараюцца чаргі за хлебам. Паасобныя магазіны гандлююць нядобраякасным хлебам. У 65% хлебе, купленым у магазіне № 7 Белваенгандля, аказаўся пясок з прычыны антысанітарыі ў пякарні. Цеста, якое падае на падлогу, пекары падбіраюць і замешваюць у агульны хлеб. Хлебазавод і пякарні не задавальняюць цалкам патрабаванняў гандлюючых арганізацый. У сярэднім у дзень недадаюць 10 тон 85% хлеба, 7 тон 65% і т. д., што выклікае перабоі ў снабжэнні хлебам раду магазінаў.

Не лепш наладжан гандаль гароднінай. Капусты, морквы, гуркоў у менскіх магазінах, як правіла, няма. Калі-ж зрэдку яны і з'яўляюцца, то адразу ля прылаўка вырастае вялікая чарга. Горунутргандаль зусім не клапоціцца аб завозе неабходнай колькасці гародніны і нічога не ведае нават аб тым, як праводзяцца загатоўкі. Чаргі за гароднінай ствараюцца, па-першае, таму, што яна завозіцца толькі ў некалькі магазінаў, і, па-другое, таму, што пастаўшчыкі недавыканалі планаў пастаўкі. Апошнюю акалічнасць Белплодгародніна і Белкаапплодгародніна не саромяцца тлумачыць дрэнным ураджаем капусты і гуркоў. Але вышукваннем аб'ектыўных прычын яны не здолеюць апраўдаць сваю дрэнную работу.

План загатовак не выканан не толькі па капусце і гурках. Белкаапплодгародніна нарыхтавала капусты толькі 59,1 проц. плана, буракоў—58 проц., морквы—41 проц., цыбулі—62,9 проц., гуркоў—71,7 проц. і яблык—58,5 проц. Белплодгародніна нарыхтавала капу-

сты—80,9 проц. плана, буракоў—66 проц., морквы—69 проц., цыбулі—56 проц., гуркоў—67,1 проц., яблык—64,1 проц. З прыведзенага ясна, што нават і па тых культурах, на недарод якіх спаслацца нельга, план загатовак усёроўна не выканан. Зразумела, чаму гандлёвая сетка Менска не атрымала патрэбнай колькасці гародніны.

З малаком малюнак той-жа. Сярэдняя патрэбнасць насельніцтва Менска ў малаку—15 тон у дзень. На IV квартал г. г. выдзелена 1.136 тон. У кастрычніку і лістападзе штодзенна паступала ў гандлюючую сетку 2—2½ тоны замест 12,6 згодна квартальнаму плану. А здарылася гэта таму, што Белгаапмалако і Малочны завод на працягу месяца не маглі дагаварыцца аб цане. Урэшце яны прымушаны былі звярнуцца да арбітражу, які абавязаў Белкаапмалако пастаўляць заводу малако па існуючай дзяржаўнай цане.

З-за бюракратычнай валакіты насельніцтва Менска не мела патрэбнай колькасці малака. Каля магазінаў стварaліся чаргі, бо паступала малако з вялікім спазненнем—к 12 гадзіне дня.

Частка малочных магазінаў адметна антысанітарыяй, некультурным абслугоўваннем пакупніка. Намеснік загадчыка магазіна № 93 Менгорхарчгандля тав. Раскін лічыць гэта нармальнай з'явай і заяўляе, што малаком гандляваць нявыгадна.

У магазінах часта няма такіх тавараў, як маргарын, алей, яйкі і т. п.

Частка магазінаў працуе па-старынцы, не ахоплена стаханаўскім рухам, тэхвучобай, не ўключалася ў соцыялістычнае спаборніцтва.

Наглядаецца яшчэ абважванне, аблічванне, імкненне прадаць спажыўцу нядобраякасны прадукт. Так, прадаўшчыца Зарэцкая (магазін № 54 Менгорхарчгандля) адпускала тавар, падкладаючы пад вагу пабочны груз. Упаўнаважаны Дзяржгандальінспекцыі вынес мяккае рашэнне: зняць Зарэцкую з работы. Аднак і гэта рашэнне не выканана. Зарэцкая па-ранейшаму «працуе» у тым-жа магазіне.

Саюзрыбзбыт збывае ў магазіны сярод добраякаснага тавару папсаваны. Магазін № 4 прадаваў ляшча 2 гатунку па цане 1 гатунку, бо так адпусціла база. У магазіны №№ 7, 9, 10, 12, 8, 6 гэта база адпусціла рыбу, часткова непрыгодную для продажу. Работнікі базы Гурвіч і Варанцоў засталіся непакаранымі за водпуск нядобраякаснага тавару.

Гандлёвая секцыя Горсовета працуе зусім нездавальняюча. Абследуе магазіны фармальна, складае акты і здае ў Дзяржгандль, дзе іх спраўна падшываюць. Секцыя павінна змагацца за культуру ў магазінах, за добрае абслугоўванне пакупніка, а не абмяжоўвацца адным складаннем актаў. Асноўная задача секцыі—дапамагчы знішчыць недахопы ў рабоце гандлёвай сеткі горада і садзейнічаць палепшанню культурнага абслугоўвання спажыўцоў.

* * *

Адною з крыніц палепшання задавалення попыту гарадскога спажыўца на сельскагаспадарчыя прадукты з'яўляецца калгасны **гандаль.**

Лістападаўскі пленум ЦК ВКП(б) у 1932 годзе абавязаў мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі аказваць усямерную садзейнасць далейшаму росту калгаснага гандлю, уцягненню ў гандаль большай колькасці калгасаў і калгаснікаў.

Павышэнне ўраджайнасці калгасных палёў, паспяховае развіццё жывёлагадоўлі і рост заможнасці калгаснікаў стварылі спрыяючыя

ўмовы для пашырэння калгаснага гандлю. Аднак трэба прызнаць, што горсовет і гарадскія гандлюючыя арганізацыі не ўдзяляюць патрэбнай увагі разгортванню калгаснага гандлю, не клапоцяцца аб культурным абслугоўванні калгасных базараў і ярмарак, не забяспечваюць іх шырокім асартыментам промтавараў.

Каб забяспечыць шырокі прыток прадуктаў сельскай гаспадаркі на калгасныя рынкі, Дзяржгандаль павінен паклапаціцца аб перыядычнай арганізацыі калгасных ярмарак, забяспечыць іх дастатковай колькасцю промтавараў і культурна абслужыць калгаснікаў.

Побач з разгортваннем калгаснага гандлю Дзяржгандаль і Горунутргандаль павінны больш сур'ёзна падыйсці да арганізацыі дэцэнтралізаваных загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў, што таксама будзе садзейнічаць палепшанню бесперабойнага снабжэння шырокіх мас living рознымі прадуктамі спажывання. У нашай рэспубліцы—неабмежаваныя магчымасці разгортвання дэцэнтралізаваных загатовак, трэба толькі па-большэвіцку ўзяцца за гэтую справу і раз назаўсёды пакончыць з апартуністычнай балбатнёй аб «недахопе» тавараў і прадуктаў.

---

# Правыя адшчапенцы—абаронцы рэстаўрацыі капіталізма

I

Суд над трацкісцка-зіноўеўскімі бандытамі і далейшае выкрыццё іх гнуснай падрыхтоўкі дыверсій і тэрору кінулі яркае святло на падрыўную работу ўсіх ворагаў соцыялізма, якія разам з трацкістамі і зіноўеўцамі гадамі змагаліся супроць совецкага народу.

У сваёй прамове на Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў тав. Молатаў, ганьбячы трацкісцка-зіноўеўскіх мярзаўцаў, гаварыў: «Вядома, што ў іх ёсць падпявалы і пасобнікі таксама з правых адшчапенцаў».

Зусім законна жаданне азнаёміцца з гісторыяй барацьбы партыі Леніна—Сталіна супроць правых адшчапенцаў і іх рэстаўратарскай праграмы.

Яшчэ ў пачатку 1925 года па ініцыятыве тавпрыша Сталіна Цэнтральны Камітэт партыі асудзіў лозунг «узбагачайцеся», кінуты Бухарыным і падтрыманы тады ў «Комсомольской правде». Гэта быў, як гаварыў таварыш Сталін, «па сутнасці справы заклік—**аднавіць** капіталізм» *). Тады-ж, у 1925 годзе, на XIV з'ездзе партыі таварыш Сталін выкрываў побач з трацкізмам той ухіл, які «заключаецца ў перамяшчэнні ролі кулака і наогул капіталістычных элементаў на вёсцы, замазванні кулацкай небяспекі» **).

Правыя выступілі супроць пабудовы соцыялізма ў нашай краіне ў тэй час, калі працоўныя Совецкага Саюза пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, на чале з прадаўжальнікам справы Леніна, любімым сваім правадыром таварышом Сталіным, падышлі да подступаў соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

«А што сабой прадстаўляе рэканструкцыя народнай гаспадаркі на базе соцыялізма?—гаварыў таварыш Сталін.—Яна прадстаўляе наступленне соцыялізма супроць капіталістычных элементаў народнай гаспадаркі па ўсяму фронту» ***).

Сталінскі план наступлення соцыялізма выклікаў шалёнае супраціўленне класавых ворагаў—усіх капіталістычных элементаў у краіне. Гэтыя ворагі знашлі сабе верных агентаў унутры партыі як у асобе трацкістаў-зіноўеўцаў, так і правых апартуністаў.

*) **І. Сталін**. „Вопросы ленинизма", X выд., стар. 586.
**) XIV З'езд ВКП(б), Стэнаграфічная справаздача. Дзяржвыдав. 1926 г., стар. 47.
***) **І. Сталін**. „Вопросы ленинизма", X выд., стар. 242.

У 1928 годзе, калі партыя, разграміўшы трацкісцка-зіноўеўскую контррэволюцыю, паспяхова ліквідавала кулацкую хлебную стачку і знішчыла падрыўныя арганізацыі шкоднікаў у прамысловасці, правыя апартуністы на чале з Бухарыным, Рыкавым, Томскім, Угланавым павялі заядлую барацьбу супроць генеральнай лініі партыі. Аперыруючы кулацкімі разважаннямі аб мнімым «упадку» сельскай гаспадаркі і «разрыве» змычкі з серадняком, сеючы паніку сярод працоўных, правыя злосна паклёпнічалі на партыю і, усяляк дыскрэдытуючы яе палітыку, патрабавалі адмаўлення ад соцыялістычнага наступлення, прабавалі павярнуць краіну назад, к капіталізму.

Яны патрабавалі згарнуць прамысловае будаўніцтва—у першую чаргу будаўніцтва цяжкой індустрыі—і спыніць будаўніцтва калгасаў і соўгасаў, прадаставіўшы кулацтву магчымасць «спакойнага развіцця».

Па сутнасці справы, выступаючы супроць палітыкі соцыялістычнай індустрыі і калектывізацыі, правыя адмаўляліся ад пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, сталі на шлях капітуляцыі, на шлях рэстаўрацыі капіталізма.

Сустрэўшы рашучы адпор таварыша Сталіна, Цэнтральнага Камітэта партыі і ўсіх партыйных арганізацый, правыя пачалі самую гнусную фракцыйную барацьбу супроць партыі.

Бухарын збіраў праваапартуністычныя элементы ў Комінтэрне. Для барацьбы супроць партыі ён выкарыстаў таксама кучку сваіх выўчанікаў—буржуазных гадзёнышаў, так званую «бухарынскую школку маладых»—Слепкова, Марэцкага, Зайцэва, Айхенвальда. Рыкаў паставіў правых апартуністаў у совецкім апараце; Томскі вёў фракцыйную работу ў профсаюзах; Угланаў са сваімі прыспешнікамі—Руцiным, Котавым, Кулікавым групаваў правых апартуністаў у маскоўскай партыйнай арганізацыі.

Ужо ў самым пачатку сваёй барацьбы супроць соцыялістычнага наступлення правыя капітулянты арганізавалі гнусны беспрынцыпны блок з трацкісцка-зіноўеўскімі контррэволюцыянерамі. Адзіная платформа капітуляцыі, платформа рэстаўрацыі капіталізма паслужыла асновай аб'яднання ўсіх ворагаў партыі. Летам 1928 года Бухарын, праз пасярэдніцтва заядлага двурушніка Сакольнікава, вёў тайныя перагаворы з зараз расстраляным главаром трацкісцка-зіноўеўскай зграі Каменевым. Яднала іх агульная мэта—сколаціць блок ворагаў партыі—правых і трацкістаў-зіноўеўцаў на агульнай платформе—рэстаўрацыі капіталізма ў СССР.

У той-жа час лідэры правай апазіцыі для адводу вачэй галасавалі за рэзалюцыю ЦК аб гаспадарчым становішчы і аб хлебазагатоўчай палітыцы.

Здрадніцкая дзейнасць правых і іх рэстаўратарская платформа былі выкрыты таварышом Сталіным.

VI кангрэс Комінтэрна прыняў сталінскую ацэнку міжнароднага становішча, якая адвяргала бухарынскія апартуністычныя тэзісы. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя разграміла правых, засеўшых у профсаюзах пад крыльцам Томскага, глушыўшых актыўнасць мас. Не глядзячы на шалёнае супраціўленне правых, у асаблівасці Томскага, у склад прэзідыума ВЦСПС быў уведзен тав. Л. М. Кагановіч, і яго непрымірымая барацьба з апартунізмам у профсаюзах мела велізарнае значэнне для далейшага поспеху соцыялістычнага наступлення.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна была выкрыта і антыпартыйная дзейнасць правых у маскоўскай партыйнай арганізацыі. Маскоўскія бальшэвікі выкінулі Угланава, Котава, Кулікава і іх прыспешнікаў.

На лістападаўскім пленуме ЦК ВКП(б) у 1928 годзе таварыш Сталін ускрыў сутнасць кулацкай агентуры ў партыі—правых капітулянтаў і паказаў, чаму правая небяспека з'яўлялася тады галоўнай небяспекай.

II

Правыя ідэолагі рэстаўрацыі капіталізма ў 1929 годзе павялі з яшчэ большай заядласцю атаку супроць сталінскага соцыялістычнага наступлення.

Гэта было не выпадкова. 1929 год увайшоў у гісторыю, як год вялікага пералому—працоўныя Савецкага Союза ў разгорнутым наступленні соцыялізма па ўсяму фронту завяявалі пад вадзіцельствам Сталіна рад рашаючых поспехаў. Іменна таму класавы вораг яшчэ больш жорстка выступіў супроць соцыялізма.

Правыя абаронцы рэстаўрацыі капіталізма—кулацкія агенты рабілі адчайныя спробы спыніць пераможнае шэствіе соцыялізма па сталінскім шляху.

У састрапанай у пачатку 1929 года фракцыйнай платформе Бухарын, Рыкаў, Томскі абрушыліся на генеральную лінію партыі і на Цэнтральны Камітэт з самымі гнуснымі паклёпніцкімі абвінавачваннямі.

Правыя рэстаўратары запазычылі з арсенала трацкісцкага паклёпу і сцверджанне аб тым, што ў партыі насаджаецца бюракратызм, няма ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

Яны актыўна змагаліся за адмену накіраваных супроць кулакоў надзвычайных мер пры правядзенні хлебазагатовак і патрабавалі ўвозу хлеба з-за граніцы—замест неабходных для соцыялістычнай індустрыялізацыі машын, прапанавалі даць поўную свабоду кулацкай вытворчасці і кулацкай спекуляцыі хлебам. Яны патрабавалі знізіць тэмпы соцыялістычнай індустрыялізацыі і настойвалі на адмаўленні ад пяцігодкі.

Кулак актыўна змагаўся за «мірнае» развіццё сваёй гаспадаркі, за свабоду капіталістычнага накаплення. Яму на дапамогу прыходзіла бухарынская «тэорыя» урастання капіталістаў у соцыялізм і патуханне класавай барацьбы. Кулак жорстка змагаўся супроць калгасаў і соўгасаў, правыя ішлі насустрач кулаку, выступаючы ў абарону тэорыі ўстойлівасці дробна-сялянскай гаспадаркі, прапаведваючы «тэорыі» самацёку, «роўнавагі» соцыялістычнага і капіталістычнага сектараў савецкай гаспадаркі.

Кулак патрабаваў безупыннага павышэння хлебных цэн. Правыя, падтрымліваючы гэта патрабаванне, стварылі «тэорыю» «безупынных уступак».

Правыя рэстаўратары скаціліся на капітулянцкія, варожыя комунізму пазіцыі і ў міжнародных пытаннях. Бухарын высунуў наскрозь меншавіцкую тэорыю «арганізаванага капіталізма», якая замазвала абвастраючыяся супярэчнасці капіталістычнага ладу, усыпляла пільнасць і рэволюцыйную актыўнасць міжнароднага пролетарыята. Усе рэнегаты і ворагі Комуністычнага Інтэрнацыянала падхапілі гэту тэорыю. Правыя рэстаўратары сталі збіральным цэнтрам для ўсёй апартуністычнай гнілі, якая прабралася ў рады Комінтэрна.

Усю сваю рэстаўратарскую праграму правыя «падмацоўвалі» шалёнай атакай на ленінізм. Іх праваапартуністычныя, буржуазна-ліберальныя «тэорыі» былі прама накіраваны супроць марксісцка-ленінскага вучэння аб класавай барацьбе і дыктатуры пралетарыята, супроць вучэння Леніна—Сталіна аб шляхах сацыялістычнага будаўніцтва і аб перамозе сацыялізма ў нашай краіне.

Таварыш Сталін у гістарычнай прамове на красавіковым пленуме ЦК у 1929 годзе бязлітасна ўскрыў класава-варожыя карэнні праваапартуністычных «тэорый».

«У чым заключаецца шкоднасць бухарынскай тэорыі ўрастання капіталістаў у сацыялізм і бухарынскага разумення пытання аб абвастрэнні класавай барацьбы?»—гаварыў таварыш Сталін.

«У тым, што яна ўсыпляе рабочы клас, падрывае мабілізацыйную гатоўнасць рэвалюцыйных сіл... і аблягчае наступленне капіталістычных элементаў супроць савецкай улады» *).

«Год вялікага пералому» зламаў, як гнілую трэску, «платформу» правых. Сталінскі план сацыялістычнага наступлення перамагаў.

Тэмпы індустрыялізацыі, якія раней намячаліся, аб «непасільнасці» якіх крычалі правыя, аказаліся пераўзойдзенымі. На сяле партыя ўзначаліла імклівую цягу беднаты і серадніакоў у калгасы, якая знайшла неўзабаве сваё выражэнне ў суцэльнай калектывізацыі. На яе аснове праводзілася ліквідацыя кулацтва як класа.

З абурэннем кляймілі працоўныя збанкрутаваўшыхся фракцыянераў і іх рэстаўратарскую платформу. Аднак правыя працягвалі сваю гнусную барацьбу супроць сацыялізма.

Правыя спекулявалі на труднасцях сацыялістычнага будаўніцтва, крывадушнічалі і двурушнічалі, утойвалі ад партыі свае сапраўдныя дзеянні і намеры, не раз капітулявалі перад Цэнтральным Камітэтам з тым, каб на наступны дзень аднавіць з новаю сілай атаку супроць партыі. Так, перад лістападаўскім пленумам ЦК ВКП(б) у 1929 годзе яны развілі шырокую падрыўную фракцыйную дзейнасць—распаўсюджвалі контррэвалюцыйныя лістоўкі, арганізоўвалі фракцыйныя вылазкі буржуазных лібералаў, выўчанікаў «бухарынскай школкі маладых»—Слепкова, Зайцэва, Айхенвальда, Марэцкага. Пацярпеўшы катастрафічнае паражэнне, яны, ашукваючы партыю, выступілі на пленуме з крывадушным дакументам, які быў трапна ахарактарызаваны таварышом Кіравым, як капітуляцыя на сённешні дзень і платформа на заўтрашні...

І сапраўды, вясной 1930 года, калі партыя сутыкнулася з труднасцямі калгаснага будаўніцтва і павяла барацьбу з перагібамі ў калектывізацыі, правыя, выконваючы сваю ролю кулацкай агентуры, зноў атакавалі партыю, напалі на партыю. Як і трацкісты-зіноўеўцы, яны ставілі стаўку на труднасці, разлічвалі прывесці ў замяшанне партыйныя рады і дабіцца правалу калектывізацыі.

Адмятаючы супраціўленне правых, партыя няўхільна ішла наперад па сталінскім шляху.

Працоўныя Савецкага Саюза з абурэннем адкінулі з дарогі кулацкіх агентаў—правых апартуністаў.

Выкрытыя ў вачах народу, правыя набылі прыяцеляў у стане самых заклятых ворагаў савецкай улады, якія віталі іх антыпартыйную дзейнасць і будавалі свае контррэвалюцыйныя разлікі на іх перамозе так сама, як на перамозе трацкістаў-зіноўеўцаў.

---

*) І. Сталін. „Вопросы ленинизма“, X выд., стар. 257-258.

Контррэвалюцыянер Громан на працэсе меншавікоў-інтэрвенцыяністаў паказаў, што «падтрыманне ўсіх праектыровак, выходзячых ад правай апазіцыі», было адным з метадаў барацьбы контррэвалюцыянераў з совецкаю ўладай.

XVI партыйны з'езд—з'езд разгорнутага соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту—канчаткова разграміў правую апазіцыю і прымірэнцаў. З'езд абвясціў, што погляды правай апазіцыі несумяшчальны з прыналежнасцю да ВКП(б).

У сваім гістарычным дакладзе на з'ездзе таварыш Сталін наглядна паказаў, што правыя рэстаўратары **«скатваюцца на справе на пункт погляду адмаўлення магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне»...** «Гэтым, уласна, і тлумачыцца той факт, што свае петушыныя бойкі з трацкістамі правыя ўхілісты звычайна ўвенчваюць закулісным перагаворамі з трацкістамі наконт блоку з імі» *).

Лідэры правай апазіцыі зноў каяліся на з'ездзе, заяўлялі аб правільнасці генеральнай лініі партыі. Але з'езд не мог паверыць на слова ашуканцам і двурушнікам і патрабаваў, каб славесныя заявы былі пацверджаны на справе актыўнай барацьбой за лінію партыі, супроць ворагаў—правых, трацкістаў і прымірэнцаў.

III

Наступныя гады паказалі, што правыя рэстаўратары як былі, так і засталіся заклятымі ворагамі партыі, хаваюць камень за пазухай, чакаюць спрыяючага моманту для новых падкопаў. Азлобленыя поўным банкроцтвам і паражэннем, адвергнутыя партыяй і працоўнымі Совецкага Саюза, правыя рэстаўратары глыбока затоілі злобу супроць партыі і совецкага народу.

У 1932 годзе асцервянелыя ворагі народу Угланаў, Руцін, Слепкоў, Марэцкі стварылі разам з трацкістамі падпольную контррэвалюцыйную арганізацыю для барацьбы супроць партыі і пролетарскай дыктатуры. Гэта банда заядлых контррэвалюцыянераў высунула праграму аднаўлення капіталізма ў СССР—патрабавала адчыніць вароты замежнаму капіталу, распусціць соўгасы і калгасы.

Жалкія ахвосці правых сталі на контррэвалюцыйны шлях, стварылі падпольныя тэрарыстычныя групкі, непарыўна звязаныя з трацкісцка-зіноўеўскай бандыцкай зграяй. Да іх прымыкалі і праваляваўцкія выраджкі.

Усю сваю нянавісць гэтыя мярзаўцы накіравалі супроць сталінскага Цэнтральнага Камітэта, супроць правадыра народаў таварыша Сталіна.

Недарма гэта тэрарыстычная зграя рэстаўратараў карысталася садзейнасцю мярзаўцаў Зіноўева і Каменева.

Лідэры разгромленай правай апазіцыі не выканалі абавязацельстваў, якія яны далі XVI з'езду партыі, працягвалі сваю актыўную дапамогу ворагам соцыялізма.

Так, у студзені 1933 года выяснілася, што Томскі, Рыкаў, правы апартуніст Шміт падтрымлівалі сувязь з контррэвалюцыйнай групай Эйсманта—Талмачова—Смірнова. Томскі, Рыкаў і Шміт сваімі паводзінамі давалі повад усякім антыпартыйным элементам разлічваць на іх падтрыманне. Былыя лідэры правай апазіцыі патуралі па сутнасці

*) І. Сталін, „Вопросы ленинизма", X выд., стар. 421.

справы антыпартыйнай, контррэволюцыйнай рабоце Эйсманта—Талмачова—Смірнова.

Цэнтральны Камітэт патрабаваў ад Рыкава, Томскага і Шміта карэннай змены сваёй пазіцыі ў барацьбе з антыпартыйнымі элементамі.

Аднак, былыя лідэры правай апазіцыі не прыслухаліся да шматлікіх папярэджанняў.

Рэчаіснасць паказала, што трацкісцка-зіноўеўскія шпіёны, забойцы, дыверсанты і агенты Гестапо працавалі поруч з правымі рэстаўратарамі капіталізма, з іх лідэрамі.

У гэтыя дні, калі Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў зацвердзіў Сталінскую Канстытуцыю, працоўныя краіны Советаў учытваюцца яшчэ і яшчэ раз у кожнае слова гэтага найвялікшага дакумента эпохі. Народы СССР успамінаюць аб гераічнай барацьбе, у якой заваявана было ўсё, што запісана ў Сталінскай Канстытуцыі. Цвёрда захоўваючы ўказанні таварыша Сталіна аб рэволюцыйнай пільнасці, працоўныя не забываюць аб ворагах, якія ўсяляк падрывалі соцыялістычнае наступленне і, дзейнічаючы разам з трацкісцка-зіноўеўскімі контррэволюцыянерамі, хацелі дабіцца рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

Гнусная роля трацкістаў, правых і ўсіх іншых рэстаўратараў капіталізма, якія дзесяткі раз каяліся і столькі-ж раз здраджвалі, вучыць нас па-сталінску быць пільнымі. Нельга быломў апазіцыянеру верыць на слова. Ні аднаму!

„Правда“.

# Усенародны набытак Совецкага Саюза

## Тэрыторыя, натуральныя багацці, насельніцтва

Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік займае тэрыторыю ў 21.353 тысячы кв. кілометраў. Займаемая СССР прастора складае адну шостую частку ўсёй сушы земнага шара. Агульная працягласць граніц СССР—каля 65 тысяч кілометраў, з якіх дзве трэці—морскія і адна трэць—сухаземныя.

* * *

Тэрыторыя СССР вельмі багата рэкамі і азёрамі. Даўжыня 40 галоўнейшых рэк складае 76.706 кілометраў. Сем буйнейшых азёр (Байкал, Балхаш, Ісык-Куль, Ладажскае, Онежскае, Чудскае і Севанскае (Гокча) і два ўнутраныя моры (Каспійскае і Аральскае) займаюць плошчу ў 580 тысяч кв. кілометраў (на 100 тысяч кв. кілометраў больш усёй тэрыторыі Германіі).

* * *

Амаль мільярд гектараў—такава плошча лясоў СССР. Гэта складае каля адной трэці сусветнай лясной плошчы (3.030 мільёнаў га). Агульны запас драўніны ў лясах СССР вылічаецца ў 51 мільярд шчыльных куб. метраў. З гэтай колькасці запас спелых і годных да рубкі насаджэнняў складае 35,6 мільярда куб. метраў.

* * *

Каласальны запасы торфу на тэрыторыі Совецкага Саюза. Пад тарфянікамі ў СССР занята плошча ў 57 мільёнаў гектараў з запасам торфу ў 77.477 мільёнаў тон. З гэтай колькасці зарэгістраваная плошча складае 12,6 мільёна га з запасам у 30,5 мільярда тон.

* * *

Ворнай зямлі ў СССР—223,9 мільёна га. 2 мільёны га занята пад садамі, агародамі і вінаграднікамі.

* * *

Агульная ўлічаная энергетычная магутнасць рэк СССР вызначаецца ў 210 мільёнаў кіловат. Па магутнасці сваіх гідра-энергетычных рэсурсаў СССР займае першае месца сярод іншых краін свету.

Царская Расія не мела ніводнай гідраўстаноўкі магутнасцю звыш тысячы кіловат. У Совецкім Саюзе ёсць ужо больш 30 гідрастанцый агульнай магутнасцю каля 1 мільёна кіловат. Будуюцца і праектуюцца гідрастанцыі на агульную магутнасць да 5,7 мільёна кіловат. Совецкі Саюз мае адну з буйнейшых у свеце гідрастанцый—Днепроўскую, поўная магутнасць якой—558 тысяч кіловат.

* * *

Запасы каменнага вугалю ў СССР вылічаюцца ў 1.200 мільярдаў тон. Па вугалю СССР займае другое месца ў свеце пасля ЗША.

Агульныя запасы нафты ў СССР складаюць 3.200 мільёнаў тон (пры сусветных запасах у 9—10 мільярдаў тон). На долю СССР прыпадае, такім чынам, звыш 30 проц. сусветных запасаў. Па нафце СССР займае першае месца ў свеце.

СССР мае ў сваіх нетрах 55 мільярдаў тон гаручых сланцоў.

Запасы жалезных руд вылічаюцца ў СССР у 10.612 мільёнаў тон, з іх разведаных—8 мільярдаў тон. Па жалезнай рудзе СССР займае першае і выключнае месца ў свеце.

У межах СССР залягае тры чверці сусветных запасаў марганца.

Нетры СССР змяшчаюць мільёны тон медзі, свінца, цынка, волава, нікеля.

Па здабычы золата СССР вышаў на другое месца ў свеце.

На тэрыторыі СССР адкрыты і распрацоўваюцца багатыя месцанароджанні ртуці, вольфрама, малібдэна, магнія, урана-радыевай руды, мыш'яка, вісмута, сурмы, берылія, тантала, кабальта і іншых рэдкіх металаў.

Запасы баксітаў (сыравіны для вытворчасці алюмінія) вызначаюцца ў СССР у 21.650 тысяч тон.

Запасы апацітаў дасягаюць двух мільярдаў тон.

СССР распалагае 60 працантамі сусветных запасаў фасфарытаў (мінеральныя ўгнаенні), 18.370 мільёнаў тон калія (з іх звыш 6 мільярдаў тон—прамысловых), багацейшым месцанараджэннем баратаў (борная соль), каштоўнымі месцанароджаннямі серы, андалузіта, карунда, графіта, плавікавага шпата, паваронай солі, флюсавых вапнякоў (для чорнай металургіі), мрамараў, самацветных каменняў, базальта, дыябаза, огнетрывалых і іншых каштоўных глін.

Усе гэтыя скарбы таяцца на прасторы ў 8.200 тысяч кв. кілометраў, г. зн. 36—37 проц. усёй тэрыторыі Совецкага Саюза. Астатняя, большая частка тэрыторыі Саюза, геалагічна яшчэ не вывучана.

* * *

Лясы, моры, рэкі і азёры СССР багаты пушным зверам, рыбай і дзічынай. У 1935 годзе нарыхтавана пушніны на 174,6 мільёна рублёў.

У 1935 годзе ў СССР вылаўлена рыбы 13.540 тысяч цэнтнераў, за 10 месяцаў 1936 года ўлоў даў 12.480 тыс. цэнтнераў рыбы.

* * *

Насельніцтва СССР, паводле даных на канец 1933 года, вылічвалася ў 168 мільёнаў чалавек, належачых да 102 нацыянальнасцей.

* * *

У СССР—767 гарадоў, 712 рабочых пасёлкаў і 1.667 пасёлкаў гарадскога тыпу.

К канцу 1935 года жыллёвы фонд у гарадах складаў 215 мільёнаў кв. метраў.

* * *

Асноўныя вытворчыя фонды соцыялістычных прадпрыемстваў усіх галін народнай гаспадаркі выраслі з 29,2 млрд рублёў у 1928 г. да 104,2 млрд рублёў у 1935 годзе (у цэнах 1933 г.).

## Прамысловасць

На 1 студзеня 1936 года ў СССР налічвалася 574.064 прамысловыя прадпрыемствы, у тым ліку 61.428 буйных.

Лік рабочых і служачых, занятых ва ўсёй народнай гаспадарцы СССР, складае звыш 25 мільёнаў чалавек. У буйнай прамысловасці—7.065 тысяч чалавек, у будаўніцтве—2.203 тысячы чалавек, у соўгасах і машынна-трактарных станцыях—2.837 тысяч чалавек.

Лік інжынераў і тэхнікаў, занятых толькі ў буйнай прамысловасці, складае 548.500.

Важнейшых, вызначаючых відаў машын у прамысловасці СССР к пачатку 1936 года было:

Паравых катлоў—36.943 (з паверхняй награву ў 3.671 тыс. кв. метраў), паравых турбін—1.848 (магутнасцю 5.583 тыс. кіловат), 16.988 электрагенератараў (магутнасцю 6.264,9 тыс. квт.), з іх 61,1 проц. устаноўлены пасля 1929 года і 12,6 проц.—у перыяд з 1934 па 1936 год; 2.430 врубавых машын (з іх 84,5 проц. набыты пасля 1929 года), 264.496 металарэжучых станкоў, 36.692 дрэварэжучыя станкі, 248.039 ткацкіх станкоў (у тым ліку 19.590 аўтаматычных), молатаў і прэсаў для коўкі і гарачай штампоўкі—11.883; 30.491 машына для халоднай штампоўкі, 13.805 правільных і кляпальных машын, 18.292 электразварачныя машыны (з іх 93,5 проц. устаноўлена пасля 1929 года і 30 проц.—у перыяд 1934—1936 гг.), 13.854 трыкатажныя і бялізнавыя машыны, 64.842 транспарцёры, 10.913 маставых кранаў, 3.889 лесапільных рам, 26.351 панчошная машына, 11.834 кампрэсары, 172 папераабраблючыя машыны і т. д.

* * *

У СССР на 1 студзеня 1936 года было 14.631 электрастанцыя магутнасцю ў 6.913.700 кіловат, у тым ліку раённых станцый 106 магутнасцю ў 4.518.200 кіловат.

Працягласць высокавольтных перадач, напружаннем ад 11.000 вольт і вышэй складала 15.078 кілометраў.

У 1935 годзе раённыя станцыі Галоўэнерго выпрацавалі 18,1 мільярда кіловат-гадзін электраэнергіі, толькі за 10 месяцаў 1936 года—18,5 мільярда квтг.

Вялікія памеры набыло ў СССР камбінаванне вытворчасці цеплавой і электрычнай энергіі. Такія цёпла-электра станцыі (ЦЭЦ) як Берэзнікоўская, Сталінская, 1-я Маскоўская і інш. належаць да самых перадавых у свеце.

* * *

СССР мае зараз 114 доменных печаў з агульным карысным аб'ёмам у 52.618 куб. метраў, у тым ліку буйных, аб'ёмам вышэй 800 куб. метраў—25 (з агульным аб'ёмам 24.483 куб. метры); 369 мартэнаўскіх печаў з агульнай плошчай поду 10.036 кв. метраў і пракатных станаў (к пачатку 1936 года)—319 з агульнай магутнасцю асноўных рухавікоў—355.000 квт.

* * *

Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці СССР за 1935 год выразілася ў 62.136 мільёнаў рублёў (у нязменных цэнах 1926-27 г.), план на 1936 год вызначае прадукцыю буйнай прамысловасці ў суме 77 мільярдаў рублёў, што азначае рост на 24 процанты. Фактычна за 10 месяцаў 1936 года прырост па саюзнай і мясцовай прамысловасці склаў ужо 32,1 процанта.

* * *

Энергаўзброенасць (г. зн. колькасць кіловат-гадзін механічнай энергіі на 1 адпрацаваную чалавека-гадзіну) рабочага ў буйнай прамысловасці ўзнялася з 1,30 у 1928 г. да 2,50 у 1935 г.

Электраўзброенасць рабочага ў буйнай прамысловасці ўзнялася з 0,69 у 1928 г. да 1,90 у 1935 г.

* * *

У СССР штодзенна выпрацоўваецца:

66 млн. квтг электраэнергіі.
350 тыс. тон каменнага вугалю,
89 тыс. тон нафты.
55,5 тыс. тон кокса.
83 тыс. тон жалезнай руды.
39,5 тыс. тон чыгуна.
48,8 тыс. тон сталі.
37,5 тыс. тон. пракату.

* * *

Велізарны разварот мае побач з цяжкай таксама лёгкая і харчовая прамысловасць. За 10 месяцаў 1936 г прадукцыя лёгкай прамысловасці вырасла на 35,8 проц., а харчовай—на 32,3 проц. у параўнанні з адпаведным перыядам 1935 года.

## Сельская гаспадарка

Пасеўная плошча СССР у 1936 годзе складала (паводле папярэдніх даных) 133,7 мільёна га, у тым ліку: зернавых—102,2; тэхнічных культур—10,8; кармавых—10,7 і бахчагародніных (уключаючы бульбу)—9,8 мільёна га.

* * *

За 1935 год у СССР быў сабраны ўраджай:

| | | |
|---|---|---|
| Зернавых . . . . . | 901 | млн. цэнтнэраў |
| Бавоўны . . . . . | 17,2 | „ „ |
| Цукровых буракоў . . | 162,1 | „ „ |
| Ільна-валакна . . . . | 5,5 | „ „ |
| Бульбы . . . . . . | 697,4 | „ „ |
| Гароднiны (без бульбы) | 168,4 | „ „ |
| Фруктаў . . . . . | 21,1 | „ „ |
| Вінаграду . . . . . | 5,6 | „ „ |
| Ягад . . . . . . | 0,8 | „ „ |
| Дзікарастучых пладоў . | 5 | „ „ |
| Чаю . . . . . . | 12,7 | млн. кілограм |

Валавы збор сельскагаспадарчых прадуктаў у 1936 г., паводле папярэдніх даных, не ніжэй, а ў адносінах паасобных відаў (бавоўна, лён, вінаград і інш.) значна вышэй 1935 года.

* * *

На 1 лістапада 1936 года трактарны парк СССР складаўся з 445,8 тыс. машын, камбайнаў было 89.600, асноўных сельскагаспадарчых машын розных відаў (трактарныя плугі, трактарныя малатарні, трактарныя сеялкі, снопавязалкі, жняяркі, буракапад'ёмнікі, ільнацерабілкі і інш.) налічвалася 2.618.200.

* * *

Да ўборачнай кампаніі 1936 года лік машынна-трактарных станцый дасяг 4.950.

Лік соўгасаў на 1 студзеня 1936 года—4.323 з зямельным фондам у 76.390 тыс. га.

Колькасць сялянскіх гаспадарак на 1 ліпеня 1936 года—20.413.900, у тым ліку калектывізаваных—18.431.900, аднаасобных—1.982.000.

Лік калгасаў—244.456.

* * *

На 1 чэрвеня 1936 года пагалоўе жывёлы ў СССР складала:

| | | | У тым ліку ў асабістым уладанні | |
|---|---|---|---|---|
| Коней . . . . . | 16,6 | млн. галоў | 1,7 | млн. галоў |
| Буйнай рагатай жывёлы | 56,7 | „ „ | 36,4 | „ „ |
| Авечак і коз . . . . | 73,7 | „ „ | 39,1 | „ „ |
| Свіней . . . . . | 30,4 | „ „ | 19,2 | „ „ |

Колькасць хатняй птушкі ў СССР к пачатку 1936 года вылічвалася ў 178,5 млн. штук.

Упершыню ў гэтым годзе ўстаноўлен план па пагалоўю вярблюдаў і аленяў. К канцу года пагалоўе вярблюдаў павінна быць даведзена да 271.500 галоў, пагалоўе аленяў—да 1.940.000 галоў.

## Транспарт і сувязь

Эксплаатацыйная даўжыня чыгуначнай сеткі СССР агульнага карыстання (шырокай і вузкай каляі) на 1 кастрычніка 1936 года складала 85.099 кілометраў.

На чыгунках Савецкага Саюза к пачатку 1936 года было: паравозаў, электравозаў і цёплавозаў—22.148, таварных вагонаў—590.843, пасажырскіх вагонаў (без вагонаў метро)—32.928.

* * *

За 1935 год чыгункі СССР перавезлі 919.121 тыс. пасажыраў і 388.533 тыс. тон грузаў.

За 9 месяцаў 1936 года перавезена 745.828 тыс. пасажыраў і 353.755 тыс. тон грузаў.

* * *

Рэчны флот СССР на 1 студзеня 1936 года меў 3.070 самаходных суднаў і 6.507 несамаходных. Морскі флот меў на тое-ж чысло 402 тавара-пасажырскія і грузавыя судны.

Па водных шляхах СССР перавезена за 1935 год—43.503.200 пасажыраў і 90.062.500 тон грузаў.

За 10 месяцаў 1936 года па адных толькі рэчных шляхах перавезена 43.666.300 пасажыраў, грузаў-жа па водных шляхах перавезена 94.061 тыс. тон.

* * *

Агульная працягласць усіх паветраных ліній грамадзянскай авіяцыі ў СССР складала ў 1936 годзе 90.600 кілометраў (у 1935 годзе—каля 80 тысяч км.). Агульная колькасць самалётаў Грамадзянскага паветранага флота павялічылася на 1 студзеня 1936 года ў 34 разы ў параўнанні з іх колькасцю на 1 студзеня 1930 года.

* * *

На 571.169 кілометраў цягнуцца тэлеграфныя, тэлефонныя і кабельныя лініі міжгародніх зносін СССР. Працягласць унутрыгарадскіх тэлеграфна-тэлефонных ліній складае 32.086 кілометраў.

## Культура, асвета, ахова здароўя

К пачатку 1936 года ў СССР налічвалася 164.081 школа ўсеагульнага навучання, 1.797 школ фабрычна-заводскага вучнёўства, 2.572 тэхнікумы, 716 рабфакаў, 595 вышэйшых навучальных устаноў.

Колькасць вучнёўства ва ўсіх навучальных установах дасягнула 27.303 тысяч.

У дашкольных установах знаходзілася каля 6 мільёнаў дзяцей.

Навукова-даследчых інстытутаў было 794 з колькасцю навуковых работнікаў—37.200 чалавек.

* * *

У СССР 724 тэатры і цыркі (у тым ліку спецыяльна прыстасаваных тэатральных будынкаў—335), 28.600 кіноўстановак (у тым ліку і кіноперасоўкі), 67 радыёстанцый Наркамсувязі і 6.860 трансляцыйных вузлоў.

Агульны лік гледачоў у тэатрах за 1935 год вылічваецца ў 715 мільёнаў чалавек.

Сетка клубных устаноў у бягучым годзе дасягнула 71,7 тысячы, з іх на вёсцы 57.700.

Паркаў культуры і адпачынку—228.

Масавых бібліятэк к пачатку 1936 года было 53.380 з кніжным фондам у 105.295 тысяч экземпляраў. Музеяў было 738 (у тым ліку мастацтвазнаўчых—61).

* * *

У 1935 годзе ў СССР выходзіла 10 тысяч газет з тыражом у 35,7 млн. экземпляраў. Надрукавана 42.700 назваў кніг з тыражом у 3 мільярды друкаваных аркушаў—на 99 мовах; журналаў выпушчана 2.100 назваў тыражом у 700 мільёнаў экземпляраў—на 48 мовах.

* * *

К канцу 1935 года ў СССР было поўных урачэбных амбулаторных устаноў каля 52 тысяч, звыш 10 тысяч зубаўрачэбных кабінетаў, каля 400 станцый хуткай дапамогі, 660 малярыйных станцый.

### Капітальнае будаўніцтва, бюджэт, народны даход

У 1935 годзе ў капітальнае будаўніцтва па ўсёй народнай гаспадарцы СССР было ўкладзена звыш 24 мільярдаў рублёў. План капітальнага будаўніцтва на 1936 год выражаецца ў 32.665 млн. рублёў. Тытульны спіс капітальнага будаўніцтва асноўных галін народнай гаспадаркі на 1936 год зміяшчае звыш тысячы аб'ектаў, пачынаючы ад маскоўскага метрапалітэна і буйных электрастанцый і канчаючы макароннай фабрыкай і складамі.

* * *

За 1935 год было выtварана галоўнейшых будаўнічых матар'ялаў: цэменту—4.470 тыс. тон, цэглы—5.700 млн. штук, вапны—2.700 тыс. тон, алебастра—800 тыс. тон, аконнага шкла—66,5 млн. квадратных метраў.

За 9 месяцаў 1936 года выtварана паводле няпоўных даных: цэменту—4.340,6 тыс. тон, цэглы (паводле далёка няпоўных даных)—

1.190.500 тыс. штук, вапны—2.209.136 тон, алебастра—659.690 тон, аконнага шкла—6,7 млн. кв. метраў.

Адзіны дзяржаўны бюджэт Саюза ССР на 1936 год зведзены ў суме 82.991 млн. рублёў у даходнай частцы і столькі-ж у расходнай.

Рознічны тавараабарот у 1935 годзе склаў 80.470 млн. рублёў. План рознічнага тавараабароту дзяржаўнага і каапераціўнага гандлю на 1936 год прыняты ў размеры 100 мільярдаў рублёў і, паводле ўсіх даных, будзе перавыкананы.

Аб'ём народнага даходу за 1935 год дасягнуў 66,5 мільярда рублёў (у цэнах 1926-27 гг.). Прырост народнага даходу за адзін 1935 год склаў каля 10 мільярдаў рублёў і амаль роўны абсалютнаму прыросту народнага даходу за першыя два гады другой пяцігодкі (10,4 мільярда рублёў).

У 1936 годзе народны даход СССР павінен узрасці да 83,1 мільярда рублёў.

Працоўчыя зберажэнні насельніцтва (у ашчадных касах) за 1935 г. склалі 1.638 млн. руб., цяпер яны дасягаюць 2.461 млн. рублёў. Матар'яльныя багацці краіны і ўзровень дабрабыту працоўных у СССР узрастаюць з дня на дзень.

„Правда"

---

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) І ЦК КП(б)Б

## Аб партыйных білетах узору 1926 года

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Устанавіць, што з 1 лютага 1937 года партыйныя білеты ўзору 1926 года і кандыдацкія карткі старога ўзору з'яўляюцца несапраўднымі.

Членаў і кандыдатаў партыі, не абмяняўшых к гэтаму часу старых партыйных дакументаў на новыя, лічыць механічна выбыўшымі з партыі.

ЦК ВКП(б).

29 снежня 1936 г.

---



# Аб выніках абмену партыйных дакументаў у партарганізацыі КП(б) Беларусі

*Пастанова ЦК ВКП(б) ад 15 лістапада 1936 года*

1. Даклад сакратара ЦК КП(б) Беларусі тав. Валковіча і судаклад адказнага інструктара ЦК ВКП(б) тав. Бірн аб выніках абмену партдакументаў у партарганізацыі Беларусі прыняць да ведама.

Зацвердзіць вынікі абмену партдакументаў у партарганізацыі Беларусі.

2. Звярнуць асаблівую ўвагу ЦК КП(б) Беларусі на нездавальняючую работу Віцебскага гаркома партыі, дрэнную яго сувязь з пярвічнымі партарганізацыямі і адсутнасць канкрэтнасці ў кіраўніцтве партарганізацыямі.

Абавязаць ЦК КП(б) Беларусі прадставіць у ЦК ВКП(б) к 1 студзеня 1937 года справаздачу аб мерах, прынятых ім па ўмацаванню партыйнай работы ў віцебскай гарадской партарганізацыі.

---

# Аб практычных мерапрыемствах па ўмацаванню партыйнай работы ў Віцебскай гарадской партыйнай арганізацыі

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б)*

Бюро ЦК КП(б)Б прызнае зусім правільным указанне ЦК ВКП(б) аб нездавальняючай рабоце Віцебскага гаркома партыі, дрэнную яго сувязь з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі і адсутнасць канкрэтнасці ў кіраўніцтве парторганізацыямі.

Адною з важнейшых прычын нездавальняючасці работы Віцебскага гаркома Бюро ЦК КП(б)Б лічыць слабасць разгортвання крытыкі і самакрытыкі ў Віцебскай партыйнай арганізацыі, у рэзультаце чаго сур'ёзнейшыя недахопы як у рабоце пярвічных парторганізацый, так і ў кіраўніцтве гаркома партыі не былі поўнасцю выкрыты ў час праверкі і абмену партыйных дакументаў. Віцебская партыйная арганізацыя ў час абмену партыйных дакументаў не была дастаткова мабілізавана на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці, з прычыны чаго некаторым варожым элементам удалося атрымаць новыя партыйныя дакументы, і яны былі выкрыты ўжо пасля абмену партдакументаў (справа Завапоўскага, віцебскае дэпо і інш.). Абмен партыйных дакументаў у Віцебскім ГК няпоўнасцю спалучаўся з уздымам партыйнай работы, павышэннем палітычнага ўзроўню комуніста і актывізацыі комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны. Гарком сістэматычна не вывучаў работу паасобных пярвічных арганізацый і не аказаў неабходнай дапамогі пярвічным партыйным арганізацыям у пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работы. Нават у такой буйнейшай партыйнай арганізацыі, як «Сцяг індустрыялізацыі», работа пастаўлена нездавальняюча. Апарат Гаркома аказаўся неаператыўным і не забяспечыў кантролю выканання рашэнняў вышэйстаячых партыйных органаў і нават сваіх уласных рашэнняў.

Бюро ЦК лічыць, што нездавальняючая работа Віцебскага гаркома адбываецца з-за недастатковага кіраўніцтва работай Віцебскага ГК з боку ЦК КП(б)Б. Не гледзячы на тое, што па выніках праверкі і абмену партыйных дакументаў бюро ЦК выкрыла па Віцебску рад сур'ёзных недахопаў у рабоце ГК і ўказала на гэта Віцебскаму ГК, аднак, ЦК не забяспечыў хуткай перабудовы работы Віцебскага гаркома і неадкладнае знішчэнне выкрытых недахопаў.

У ажыццяўленне рашэння Оргбюро ЦК ВКП(б) аб умацаванні партыйнай работы ў Віцебскай гарадской партыйнай арганізацыі бюро ЦК КП(б)Б прапануе бюро Віцебскага гаркома правесці наступныя практычныя мерапрыемствы.

## І. У частцы перабудовы работы апарата гаркома

1. Да 28/XII-36 г. перагледзець і зацвердзіць на сакратарыяце ГК размеркаванне пярвічных партыйных арганізацый паміж інструктарамі ГК з тым, каб на групу фабрычна-заводскіх партарганізацый было вылучана 2 інструктары, на групу партарганізацый устаноў— 2 інструктары, партарганізацыі навучальных устаноў—адзін інструктар і астатнія партарганізацыі (саматужна-прамысловых арцелей, комунальныя прадпрыемствы, сувязь, будаўніцтва і т. д.)—адзін інструктар.

Даручыць Віцебскаму ГК к 28/XII прадставіць на зацверджанне бюро ЦК КП(б)Б кандыдатуры інструктароў па прамысловых партарганізацыях і партарганізацыях устаноў, улічваючы, што даны склад інструктароў не спраўляецца з работай, і на гэту работу неабходна вылучыць моцных работнікаў.

2. Увесці ў практыку складанне месячных календарных планаў работы для кожнага інструктара ГК паасобку з тым, каб гэтыя планы былі зацверджаны сакратарыятам ГК. Пры зацвярджанні месячнага календарнага плана інструктара ГК сакратарыят ГК абавязан заслухоўваць справаздачу інструктара Гаркома аб выкананні ім календарнага плана мінулага месяца.

Абавязаць Віцебскі ГК да 1 студзеня 1937 г. разгледзець на сакратарыяце календарныя планы работ на студзень месяц усіх інструктароў ГК.

3. Абавязаць Віцебскі ГК КП(б)Б увесці ў практыку работы абавязковае прадстаўленне інструктарамі ГК дакладных запісак сакратару Гаркома пасля кожнага наведвання інструктарам Гаркома пярвічнай партарганізацыі. Па кожнай запісцы інструктара сакратар ГК павінен даваць вычарпальныя ўказанні інструктару і ставіць на вырашэнне Гаркома пытанні, узнятыя інструктарам Гаркома.

4. Абавязаць Віцебскі ГК КП(б)Б не менш двух раз у месяц праводзіць нараду інструктароў ГК па пытаннях пастаноўкі арганізацыйна-партыйнай работы ў пярвічных партарганізацыях.

Устанавіць, што інструктар ГК павінен 75% свайго часу знаходзіцца ў пярвічных партыйных арганізацыях для дапамогі апошнім у пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай работы і кантролю за выкананнем рашэнняў партыі.

5. На адным з бліжэйшых пленумаў Гаркома паставіць справаздачу аб рабоце інструктара Гаркома.

6. Даручыць ГК да 1/I-37 г. перагледзець склад пазаштатных інструктароў, вылучыўшы на гэту работу 25—30 найбольш правераных і падрыхтаваных работнікаў.

7. Забараніць Віцебскаму ГК вырашаць пытанні апросным парадкам, а абмяркоўваць пытанні на бюро і сакратарыяце з абавязковым выклікам комуністаў, аб якіх рашаюцца пытанні.

8. Увесці ў практыку работы Віцебскага ГК рэгулярнае заслухоўванне на сакратарыяце ГК інфармацыі аб рашэннях пярвічных партыйных арганізацый (агульных партыйных сходаў, цэхавых партсходаў, парткомаў) і аб пытаннях, якія ставяць пярвічныя партыйныя арганізацыі перад ГК, забяспечыўшы канкрэтнае аператыўнае рэагаванне на пастаўленыя пярвічнымі партарганізацыямі пытанні, выпраўленне памылак, дапушчаных пярвічнымі партарганізацыямі.

9. Абавязаць сакратароў Віцебскага ГК КП(б)Б арганізаваць работу такім чынам, каб сакратар Гаркома кожны дзень ведаў-бы аб месцы,

часе і павестцы для правадзімых партыйных сходаў пярвічных парт-арганізацый з тым, каб сакратары ГК, у залежнасці ад важнасці разглядаемых на агульных партсходах пытанняў, прысутнічалі на паасобных партыйных сходах асабіста або камандзіравалі на іх членаў бюро ці інструктароў ГК.

10. Устанавіць рэгулярны выклік сакратароў парткомаў і парторгаў сакратарамі Гаркома з тым, каб сакратар ГК асабіста інфармаваўся аб рабоце пярвічнай партарганізацыі, вырашаў пытанні і даваў указанні сакратару парткома або парторгу па яго рабоце. Даручыць ГК устанавіць пэўны час прыёму (не менш 2—3 гадзіны штодзенна) сакратаром ГК камуністаў для таго, каб кожны камуніст мог вырашаць з сакратаром ГК пытанні, якія яго цікавяць.

11. Прапанаваць Віцебскаму ГК да 2/I-37 г. прадставіць на зацверджанне Бюро ЦК план работы аддзела партыйных кадраў і аддзела культуры і прапаганды Гаркома. Даручыць АКПО і Аддзелу агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б разгледзець гэтыя планы і свае заўвагі прадставіць на Бюро ЦК.

12. Побач са скліканнем нарад усіх сакратароў парткомаў і парторгаў, Віцебскаму ГК увесці ў практыку рэгулярнае скліканне сакратароў парткомаў і парторгаў па асобных галінах (цяжкай прамысловасці, лёгкай прамысловасці, навучальных і іншых устаноў) з тым, каб на гэтых нарадах сакратары парткомаў і парторгі інструктаваліся сакратаром ГК аб спецыфічных задачах данай групы партыйных арганізацый.

13. Абавязаць сакратароў Віцебскага ГК КП(б)Б пры абмеркаванні на бюро і сакратарыяце ГК важных пытанняў работы пярвічных партыйных арганізацый загадзя асабіста азнаёміцца з пытаннямі, пастаўленымі на абмеркаванне бюро і сакратарыята ГК, шляхам наведвання сакратаром ГК пярвічнай партыйнай арганізацыі, гутаркі з сакратаром парткома і камуністамі.

## II. У частцы справаздачнасці Віцебскага ГК КП(б)Б, сакратароў парткомаў і парторгаў перад партыйнымі масамі

1. На працягу студзеня і лютага 1937 г. правесці ва ўсіх пярвічных партарганізацыях справаздачы сакратароў парткомаў, цэхпарторгаў і парторгаў аб іх рабоце з тым, каб справаздачныя сходы былі дасканала падрыхтаваны, была падвергнута шырокай крытыцы работа парткомаў і парторгаў і вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы па паляпшэнню работы пярвічных партарганізацый.

2. На працягу студзеня 1937 г. Віцебскаму ГК адчытацца аб сваёй рабоце ў больш буйных пярвічных партыйных арганізацыях.

3. Устанавіць парадак, што сакратар парткома і парторг абавязаны адчытвацца аб сваёй рабоце на партыйных сходах раз у 4 месяцы.

4. Устанавіць, што на кожным партыйным сходзе сакратар парткома і парторг адчытваюцца аб выкананні рашэнняў, прынятых папярэднім партыйным сходам.

## III. У частцы кантролю за выкананнем рашэнняў бюро і сакратарыята ГК КП(б)Б

1. На працягу студзеня і лютага 1937 г. Віцебскаму ГК правесці праверку выканання рашэнняў Гаркома, прынятых па выніках праверкі і абмену партыйных дакументаў па кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі. Заслухаць на сакратарыяце і бюро Гаркома справа-

здачы сакратароў парткомаў і парторгаў па гэтаму пытанню з сударкладамі інструктароў ГК і спецыяльна вылучаных для праверкі правераных таварышоў з партыйнага актыва.

2. Устанавіць парадак, што ў кожным рашэнні, прынятым бюро і сакратарыятам ГК, павінна быць дакладна вызначана, на каго ўскладаецца кантроль за выкананнем прынятага рашэння і дакладна ўказаць тэрмін выканання. У адпаведнасці з устаноўленымі Гаркомам тэрмінамі на бюро і сакратарыяце Гаркома павінны ставіцца паведамленні аб ходзе выканання прынятых рашэнняў.

## IV. У частцы вырошчвання і выхавання кіруючага партыйнага актыва

1. Абавязаць Віцебскі ГК КП(б)Б к 1/I-37 г. арганізаваць курсы сакратароў парткомаў і парторгаў на 5 чал. Кіраўніцтва курсамі ўскласці на тав. Жураўлёва. У праграму курсаў уключыць два пытанні: 1) гісторыя ВКП(б) і 2) партбудаўніцтва. Абавязаць АКПО ЦК КП(б)Б да 28/XII забяспечыць Віцебскі ГК КП(б)Б праграмай па курсу «Партыйнае будаўніцтва».

2. Абавязаць Віцебскі ГК неадкладна пачаць курс лекцый па пытаннях партыйнага будаўніцтва на працуючых курсах райпартактыва.

3. Даручыць Віцебскаму ГК к 5/I-37 г. вылучыць рэзерв у 50 чал. з правераных і праявіўшых сябе работнікаў з партыйнага актыва, вызначыць мерапрыемствы па павышэнню іх узроўню і ўцягненню іх у практычную работу ГК, і ўсе гэтыя мерапрыемствы разам з характарыстыкай вылучаных у рэзерв прадставіць на зацверджанне бюро ЦК КП(б)Б.

4. Прапанаваць Віцебскаму ГК к 1/I-37 г. распрацаваць парадак прыцягнення членаў Гаркома да практычнай работы Гаркома і прадставіць свае мерапрыемствы на зацверджанне Бюро ЦК.

## V. У частцы ўмацавання партыйнай работы ў пярвічных партарганізацыях

1. На працягу студзеня месяца Віцебскаму ГК разгледзець і зацвердзіць планы работ буйных пярвічных партарганізацый і партарганізацый найбольш важных участкаў работы.

2. Віцебскаму ГК сумесна з Промаддзелам ЦК КП(б)Б да 5/I-37 г. перагледзець склад сакратароў буйных пярвічных партыйных арганізацый, буйных прадпрыемстваў, фабрык і заводаў з пункту погляду падбору туды найбольш правераных і падрыхтаваных таварышоў і прадставіць свае прапановы ў ЦК КП(б)Б.

3. У студзені і лютым месяцы заслухаць на бюро ЦК КП(б)Б даклады аб рабоце над выхаваннем комуніста ў наступных пярвічных партыйных арганізацыях: ф-ка «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ», партарганізацыя Пед'інстытута і Ветзоаінстытута і віцебскага дэпо.

Промаддзелу і Аддзелу школ і навукі ЦК КП(б)Б абследваць гэтыя партыйныя арганізацыі.

4. Для дапамогі Віцебскаму ГК у пастаноўцы партыйнай работы ў фабрычна-заводскіх партыйных арганізацыях і партарганізацыях чыгуначнага транспарту камандзіраваць у Віцебск тав. Чорнага тэрмінам на 1 месяц.

5. Абавязаць Віцебскі ГК КП(б)Б ліквідаваць цякучасць кіруючых партыйных кадраў (сакратары парткомаў, парторгі), забяспечыўшы падбор на кіруючую партыйную работу правераных і падрыхтаваных

работнікаў. Забараніць аддзелам ЦК КП(б)Б уносіць прапановы аб перамяшчэнні сакратароў парткомаў і парторгаў Віцебскай партыйнай арганізацыі, калі гэтыя перасоўванні не выкліканы неабходнасцю ўмацавання партыйнай работы ў данай партарганізацыі г. Віцебска.

6. Абавязаць Віцебскі ГК пасля кожнага праведзенага партдня ў пярвічных партарганізацыях абмеркаваць вынікі партдня, апаратыўна вырашаючы пытанні, пастаўленыя партыйнымі арганізацыямі. Пасля кожнага партдня абавязкова збіраць нарады сакратароў парткомаў і парторгаў па галінах для падвядзення вынікаў мінулага партдня і інструктавання сакратароў парткомаў і парторгаў па пытаннях, узнікшых у сувязі з праведзеным партднём.

## VI. У частцы пастаноўкі партыйнай прапаганды

1. Абавязаць сакратароў ГК не менш 1 раза ў месяц асабіста збіраць прапагандыстаў для інфармавання іх па важнейшых палітычных пытаннях і абмену вопытам па методыцы выкладання.

2. Прапанаваць Віцебскаму ГК КП(б)Б выканаць рашэнне Бюро ЦК КП(б)Б аб тым, каб перад сканчэннем работы партыйнай школы або гуртка, работа школы або гуртка правяралася Гаркомам, і пытанне аб сканчэнні работы кожнага гуртка і школы абмяркоўвалася-б на сакратарыяце Гаркома і вырашалася-б пытанне аб далейшай вучобе слухачоў, скончыўшых школу або гурток.

3. Віцебскаму ГК сабраць у студзені месяцы гарадскую нараду заг. парткабінетамі, дзе абмеркаваць мерапрыемствы аб палепшанні работы парткабінета ў справе дапамогі прапагандысту і слухачам гуртка ў павышэнні іх палітычнага ўзроўню. Вынікі нарады заслухаць на Бюро ў канцы студзеня месяца.

4. Даручыць Аддзелу партпрапаганды і агітацыі ў студзені месяцы на нарадзе аддзела заслухаць даклады прапагандыстаў партшкол у буйных партарганізацыях і свае прапановы па рабоце паасобных школ прадставіць на Бюро ЦК з выклікам на Бюро ЦК прапагандыстаў гэтых школ.

5. Для дапамогі ГК у пастаноўцы партыйнай прапаганды камандзіраваць у Віцебск адказнага работніка культпропа тэрмінам на 1 месяц.

## VII. У частцы пастаноўкі палітычнай агітацыі

1. Даручыць Віцебскаму ГК к 15/I-37 г. адабраць з найбольш праверанных і падрыхтаваных комуністаў з партыйнага актыва 50 чал. у якасці агітатараў для абслугоўвання пярвічных партыйных арганізацый. Віцебскаму ГК распрацаваць і прадставіць у ЦК КП(б)Б к 15/I-37 г. мерапрыемствы па пастаноўцы сістэматычнай работы з гэтым калектывам агітатараў.

2. Устанавіць, што ў пярвічных партарганізацыях кіраваць работай палітбяседчыкаў і чытчыкаў газет павінен сам сакратар парткома або парторг. Абавязаць Віцебскі ГК забяспечыць, каб сакратары парткомаў і парторгі абавязкова асабіста збіралі палітбяседчыкаў і чытчыкаў газет не менш аднаго разу ў 10 дзён, інструктавалі-б іх аб рабоце і інфармавалі палітбяседчыкаў па важнейшых пытаннях палітыкі партыі і ўрада.

3. Віцебскаму ГК раз у месяц збіраць усіх палітбяседчыкаў і чыт-

чыкаў газет з пастаноўкай на гэтых нарадах дакладаў па важнейшых пытаннях бягучай палітыкі.

4. Увесці ў практыку работы ГК заслухоўванне на сакратарыятах ГК дакладаў палітбяседчыкаў і чытчыкаў газет аб іх рабоце з тым, каб сакратаром ГК гэтым таварышам даваліся-б канкрэтныя ўказанні аб арганізацыі іх работы.

5. Лічыць неабходным на працягу студзеня-сакавіка 1937 г. паставіць для Віцебскага актыва тры даклады:

аб Сталінскай Канстытуцыі,

аб падзеях у Кітаі,

аб фашызме.

* * *

Бюро ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу Віцебскага ГК, што важнейшай прычынай нездавальняючасці работы Віцебскай партыйнай арганізацыі з'яўляецца слабое разгортванне крытыкі і самакрытыкі ў партыйнай арганізацыі. ЦК абавязвае ГК мабілізаваць усю партыйную арганізацыю на шырокае разгортванне крытыкі буйнейшых недахопаў у рабоце ГК і пярвічных партарганізацый і павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці.

Заслухаць на Бюро ЦК у красавіку месяцы даклад тав. Жураўлёва аб выкананні рашэнняў Оргбюро ЦК ВКП(б) і данага рашэння ў Віцебскай партарганізацыі з судакладам АКПО ЦК КП(б)Б.

# Беспрытульны журнал

У нядаўна вышаўшым дзесятым нумары журнала «Большэвік Беларусі» перадрукавана пастанова ЦК ВКП(б) «Аб скажэннях некаторымі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)».

Рэдакцыя, аднак, зусім дарэмна побач з пастановай надрукавала артыкул сакратара парткома фабрыкі «Комунарка» (Менск) тав. Рабкіна—«Падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю». У гэтым артыкуле даволі выразна праяўляюцца іменна тыя скажэнні, якія асуджаны рашэннем ЦК ВКП(б).

У артыкуле прыводзіцца спіс асоб, «падрыхтаваных», па думцы тав. Рабкіна, да пераводу ў члены партыі. Так і напісана: «да пераводу ў члены партыі ў асноўным падрыхтаваліся» (затым ідуць прозвішчы). Далей—другі спіс: «не падрыхтаваліся да пераводу кандыдаты» (зноў следуе некалькі прозвішчаў). «Рыхтуецца да прыёму ў партыю група комсамольцаў-актывістаў у 15 чалавек». Дакладнасць, як бачым, поўная.

Журнал, як відаць, беспрытульны. Толькі гэтым можна вытлумачыць, што ў адным і тым-жа нумары друкуецца пастанова ЦК ВКП(б) і матар'ял, які ў корані супярэчыць гэтаму важнейшаму дакументу.

«Правда».

## Ад рэдакцыі

*Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі" прызнае зусім правільнай крытыку Ц. О. „Правда" у артыкуле „Беспрытульны журнал" ад 10/XII 1936 г. аб дапушчэнні рэдакцыяй у артыкуле Б. Рабкіна, змешчаным у № 10 „Б. Б", сур'ёзнай палітычнай памылкі. У артыкуле сакратара парткома фабрыкі „Комунарка"—„Падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю", па віне рэдакцыі прапушчана ў друк месца, якое па сваіму зместу супярэчыць дырэктыве ЦК ВКП(б) і пастанове ЦК ВКП(б) ад 21 кастрычніка 1936 года „Аб скажэннях некаторымі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму новых членаў у ВКП(б)".*

*Партыйная арганізацыя фабрыкі „Комунарка" і яе сакратар т. Рабкін павінны на практыцы выправіць памылкі, якія мелі месца ў іх рабоце па ажыццяўленню пастановы ЦК ВКП(б) і забяспечыць безагаворачнае выкананне статута партыі і пастановы ЦК ВКП(б) ад 21 кастрычніка 1936 г., у якой гаворыцца:*

*а) неадкладна спыніць усякія спробы ператварыць прыём новых членаў у ВКП(б) у чарговую кампанію і парадную шуміху,*

*б) безумоўна забяспечыць індывідуальны парадак прыёму ў ВКП(б), уважлівую праверку кожнага прымаемага ў партыю, вывучэнне і разбор кожнай заявы аб уступленні ў рады ВКП(б),*

*не лічачыся з тым, колькі часу патрабуецца для разгляду такіх заяў і не робячы выключэння з гэтага парадку ні для якіх катэгорый прымаемых (рабочыя, сяляне, працоўная інтэлігенцыя).*

*Рэдакцыя „Б. Б." у сваёй далейшай рабоце абавязана ўлічыць указанні Ц. О. партыі „Правды" і больш сур'ёзна правяраць змяшчаемыя матар'ялы, каб „забяспечыць правільнае асвятленне ў друку пытанняў прыёму новых членаў у ВКП(б)", ведучы рашучую барацьбу з усякімі парушэннямі пастановы ЦК ВКП(б) і статута партыі.*

---

Уп. Галоўлітбела № Л—1901.
Тыраж 8.5С0.
316.800 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў друк—20/XII—36 г.
Падпісана да друку 9/I—37 г.

*Рэдкалегія* Г. Рубінштэйн, Д. Конік

*Нам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 1339

# ЗМЕСТ

## ЖУРНАЛА „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ ЗА 1936 ГОД

### Пытанні ленінізма



### Сталінская Канстытуцыя соцыялізма

## Арганізацыйна-партыйныя пытанні і палітмасавая работа

## Барацьба партыі супроць трацкісцка-зіноўеўскіх фашысцкіх бандытаў—рэстаўратараў капіталізма



## Пытанні стаханаўскага руху

ЦАНА 40 кап.

